адна зямля




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

21 лютага 2003 года

№ 8 (409)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

Навіны рэгіёну

## Другая гімназія

ВІЛЕЙКА. 1 верасня СШ № 4 адчыніць дзверы як гімназія. Такое рашэнне прыняў райвыканкам. Пачалася работа па пераводзе школы на "гімназічныя рэйкі". Вывучаецца грамадская думка. Пры гімназіі плануецца стварыць інтэрнат для адораных дзяцей з вясковых школ. Гэта будзе другая гімназія ў горадзе. Звычайных сярэдніх школ застанецца толькі тры.

Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

## Без гарачай вады

МЯДЗЕЛ. Жыхары райцэнтра з 14 лютага засталіся без гарачай вады.
У ЖКГ адключэнне тлумачаць недахопам паліва. Крыху выручылі ў Вілейцы — пазычылі 300 тон (гэта на дзесяць дзён працы ў звычайным рэжыме). Для вырашэння праблемы імкнуцца набыць паліва і адначасова спрабуюць перавесці адзін з катлоў кацельнай на прыродны газ.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Доўг зменшыўся

АСТРАВЕЦ. Учора ў калгасе імя Карла Маркса выплацілі работнікам грашовую дапамогу на дзяцей за леташні кастрычнік.
Пра складаную сітуацыю ў гэтым калгасе мы пісалі ў мінулым нумары "РГ". Частку доўгу перад калгасам пагасіў Смаргонскі малаказавод. Як сказаў старшыня гаспадаркі **Слава Насута**, сёння калгаснікі павінны атрымаць дапамогу за лістапад і, магчыма, за снежань.

Юрый КАРПІЦКІ.

## Памяці Прытыцкага

МАЛАДЗЕЧНА. 18 лютага ў 90-ю гадавіну з дня нараджэння Сяргея Прытыцкага ў горадзе арганізавалі вечар памяці былога першага сакратара Маладзечанскага абкома партыі. На вечары прысутнічала дачка Сяргея Прытыцкага **Тацццяна**. Ля мемарыяльнай дошкі на доме, дзе жыў Прытыцкі, усклалі кветкі.

Юрый КАРПІЦКІ.

## Падарункі ад японцаў

ВАЛОЖЫН. Сівіцкі фельчарска-акушэрскі пункт купіць медыкаменты, шпрыцы, халадзільнік, ровар і тэлефон – усяго на 2,5 тысячы долараў. Гэтыя грошы прывёз **Сіросі-сан**, прадстаўнік японскай дабрачыннай арганізацыі «Збор сродкаў для дзяцей Чарнобыля».

Наталля ШТЭЙНЕР.

## Сустракаюць вясну

АШМЯНЫ. У нядзелю ў райцэнтры пройдзе свята "Зіма з вясной сустракаецца". Ашмянцы ўбачаць тэатральзаванае прадстаўленне, канцэрт. Для дзяцей будзе працаваць гульнявая пляцоўка.

Ірына РАБУШКА.

# Вясковы парламент

**СМАРГОНЬ. У вёсцы Пагарэльшчына ёсць свой парламент.**

Кожны парламентарый мае свой "партфель" і свае абавязкі выконвае пажыццёва. Сюды выбары ніколі не праводзіліся. Парламенту некалькі дзесяткаў гадоў, а так яго назвалі напачатку 1990-х.

З даўніх часоў у доме на скрыжаванні дарог збіраліся суседзі, каб абмеркаваць свае справы, паглядзець тэлевізар і папіць гарбаты. Так рабілі яшчэ бацькі сённешніх парламентарыяў-пенсіянераў. Такія зборы ўвайшлі ў прывычку, і аднавяскоўцы, калі бачылі ўсіх разам, гаварылі, што ізноў "парламент" збіраецца на чарговую "сесію". Назва настолькі прыжылася, што цяпер парламентарыі ганарацца гэтым высокім званнем. Разам збіраюцца штодзень. Весялей так, бо ўсе парламентарыі засталіся адныя ў сваіх хатах.

Быць членам парламента – гэта не толькі гонар, але і абавязкі. Летась вясной, у самы час садзіць агарод, палажылі ў бальніцу **Мікалая Дурэйку**. Парламент сабраўся на пазачарговую сесію і вырашыў выручыць дзеда. Выпісаўся пацыент, а дома яго чакалі дагледжаныя градкі. Калі нехта дзень не паказваецца на вуліцы, то парламент мае права ўскрыць дом. Усе пра гэта ведаюць, вёска невялікая – каля 30-ці двароў. Часам прыходзіцца канстатаваць смерць і паведамляць родным. Гэта не рэдкасць, у вёсцы толькі адзін чалавек працаздольны, астатнія – пенсіянеры. Сам парламент за апошнія 2 гады назаўсёды пакінулі 4 чалавекі.

Парламент змагаецца з п'янствам. Калі ўбачаць "хворага" на вуліцы, то абавязкова давядуць дадому, а назаўтра выклікаюць на сваю "сесію". Гавораць, дзейнічае. Таму цяперашняя шасцёрка парламентарыяў у вачах аднавяскоўцаў і жыхароў маюць бясспрэчны аўтарытэт. На вяселлях, якія іграюць у суседніх Язгах, парламент усім складам запрашаюць. Дні нараджэння калег – таксама адзначаюць разам. Цяпер у шэраг памятных дат уклініліся і гадавіны смерці...

Сёння ў шасцёркі парламентарыяў – старшыні **Анатоля Апановіча**, намеснікаў **Рэгіны Цыбоўскай, Тацццяны Сержан, Мікалая Дурэйкі**, загадчыцы залы **Зінайды Дурэйкі**, і **Анастасіі Радкевіч**, у якой права рашаючага голасу – дзень чарговай пенсіі. Разам з ёй парламентарыі за сваю актыўнасць атрымаюць дабаўку ад райвыканкома – 15 тысяч, а Зінаіда Дурэйка – 20 тысяч рублёў.

Цяпер на павестцы дня ў парламентарыяў – праграма свята 23 лютага. На пытанне мужчынам, ці падрыхтавалі яны падарункі да 8 Сакавіка, тыя усміхнуліся:

– Спачатку паглядзім, як нас нашыя жанчыны павіншуюць.

Юрый КАРПІЦКІ.



Намеснік старшыні парламента вёскі Пагарэльшчына, што на Смаргоншчыне, Рэгіна Цыбоўская ўжо падрыхтавала падарунак сваім калегам-мужчынам на 23 лютага.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Чаму Каламіец выбраў Беларусь?

Існуе шмат версій гібелі вядомага ўкраінскага журналіста Міхаіла Каламійца ў лесе пад Вязынкай, але невядома, чаму ён абраў Беларусь.



4-я старонка

## Promień – першы часопіс у Маладзечне

У Маладзечанскай гімназіі імя Тамаша Зана выходзіў штомесячны часопіс "Промень". Аб часопісе ведалі ў Міжнародным адукацыйным мастацкім інстытуце ў Швейцарыі. Аб чым пісаў "Промень"?

5-я старонка

## Стагоддзе Вінцэнта Жук-Грышкевіча

Праз два дні споўніцца 100 год Вінцэнту Жук-Грышкевічу. Літаратуразнаўцу, педагогу, гісторыку, які нарадзіўся на Мядзельшчыне.



8-я старонка

# «Сто лят» у гонар пана Юзафа

**АШМЯНЫ. У пазамінулым нумары «Рэгіянальнай газеты» быў надрукаваны ліст нашага чытача Юзафа Грынчука з Нарбутаў на Ашмяншчыне. Нядаўна мы наведалі яго.**

Адшукаць пана Юзафа было вельмі проста — усё было, як і ў лісце: сем хат, і патрэбная нам — пасярэдзіне. Сустрэліся ў двары. Гаспадар здзівіўся нашаму прыезду, нягледзячы на тое, што сам нас запрашаў. Не ведаю, ці то ад моцнага марозу, ці ад расчуленасці, але на яго вачах ў момант сустрэчы з'явіліся слёзы.

Чалавек ён вельмі шчыры і добры. Сапраўдны гаспадар хаця і жыве адзін. Калі прапаноўваў нам прыгатаванага ім віна, сказаў: «Я не п'яніца, але, калі прыйдуць госці, чаму б не пачаставаць».

Пан Юзаф вельмі многа чытае, у асноўным, — кнігі на польскай мове. У яго нават ёсць свая невялікая дамашняя бібліятэка. Сам піша вершы па–польску. З задавальненнем ён зачытваў нам некаторыя з іх. У пакоі стаіць радыёпрыёмнік, які пан Юзаф выйграў на адным з творчых конкурсаў Польскага радыё.



**Юзэф Грынчук, якому ўжо 82 гады, любіць чытаць, піша вершы.**
Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

Пан Юзаф кажа, што яму цяжкавата гаварыць па–беларуску або руску, усё адно ў думках перакладае словы з польскай. На пачатку ўстанаўлення савецкай улады ён амаль зусім не разумеў прыезджых. Аднойчы заехала да іх адна жанчына і папрасіла, каб ёй прыгатавалі «картошку с луком и лук со сметаной». Што такое «картошка», Юзаф ужо ведаў, але, як тая жанчына магла з'есці столькі бульбы (падумаў, «с луком», значыць, цэлае «лукошко»), ён ніяк не мог уцяміць. «Дык няўжо ёй і кошык смятанай намазаць?»

Нарадзіўся ён у мястэчку Дзераўное Ашмянскага павета ў небагатай сям'і. Бацька меў 1,5 гектара зямлі, нямнога, але жылі так, што багатыя зайздросцілі. Канешне, прыходзілася вельмі напружана працаваць, але гэта каштавала таго. Праз дарогу ў Кушлянах жыла пані Каркоцкая, чыю зямлю ў 60 гектараў Грынчукі і абраблялі. Аднойчы прыйшла яна да бацькі пазычыць ёй некалькі пудоў збожжа да новага года. «Мы рабілі — яна плаціла. У нас было — ёй не хапіла». Вось якіх вынікаў можна дасягнуць з дапамогай сваёй працы.

У сям'і расло пяцёра дзяцей: два хлопцы і тры дзяўчынкі. Юзаф — самы старэйшы з іх. У школе вучыўся на выдатна. Але ў бацькі не было грошай, каб адправіць сына вучыцца куды-небудзь далей.

Але ўсё ж такі ў 1938 годзе ён паступае ў сельгасшколу. Адзін год правучыўся там па спецыяльнасці аграном-агароднік. Юзафу вельмі падабалася тое, чым ён займаўся ў гэтай школе. І хоць усё далейшае жыццё ён працаваў прадаўцом у магазінах (у Кушлянах, Стрыпунах, Жупранах), чалавека цягнула ў зямельную стыхію. Нават цяпер у гаспадарцы пана Юзафа, акрамя курак, летам у агародзе шмат прыгожых кветак (нават сам вырошчвае новыя сарты, «такія, што і свет не бачыў»). Багаты яго агарод і лячэбнымі травамі: меліса, мята, маяран. Магазінны чай ніколі не п'е, толькі свае травы заварвае. І выглядае ён вельмі бадзёра. Да мінулага года ўвогуле не хварэў.

У 1939–41 гадах пан Юзаф працаваў на гаспадарцы. А як прыйшлі немцы, даводзілася хавацца ад ліха далей. Праз некаторы час уся вёска падалася ў партызаны Арміі Краёвай. Ды і сам Юзаф быў не выключэннем.

Ён успамінае: «Некаторыя партызаны часам праязджалі праз вёску, дык дзе кабана застрэляць, у каго карову забяруць. Мы так ніколі не рабілі. Але я там мала быў: нікога не забіў, нічога такога». Толькі згадвае адзін выпадак у Куцевічах, дзе ён з іншымі партызанамі абяззбройваў літоўскую паліцыю: павыразалі ў штанах паліцаяў гузікі і адпусцілі. Тыя вярталіся дадому, а людзі смяяліся: «Па чым ліцвіны? Па чым ліцвіны?» Яны ціха ішлі і прытрымлівалі рукамі свае штаны, каб не ўпалі.

Як прыйшлі "другія саветы", Грынчук аказаўся самым адукаваным хлопцам ва ўсёй мясцовасці. Кім толькі не прасілі яго працаваць: і настаўнікам, і бухгалтарам. Шэсць гадоў нават прабыў засядацелем у судзе. А з 1947 года працаваў прадаўцом у магазіне.

Калі быў маладым, лічыў сябе непрыгожым, нікуды не выходзіў. Не падабаўся свой «польскі шляхецкі нос». Аднагодкі Грынчука ўжо даўно ажаніліся, а ён яшчэ халасцякаваў. «А потым дзеўкі мяне самі выдзвінулі». І не дзіва, магу сказаць, — сама бачыла на сцяне ў пакоі яго фота. Ажаніўся ў 36 гадоў, і толькі праз 2 гады нарадзілася дачка. Пан Юзаф растлумачвае: «Мы не ведалі, як гэта рабіць. Ні я, ні яна. Без практыкі былі». Не так даўно ў Доме палякаў у Ашмянах пазнаёміўся з Заблоцкімі з польскага Слупска, расказаў ім некалькі сваіх вершаў. Пасля ўжо даведаўся, што ў Польшчы на штогадовым «З'ездзе ашмянчыкаў», жыхароў былога Ашмянскага павета, Заблоцкія чыталі яго вершы. Там здзівіліся — як гэта: чалавек так добра піша па–польску і ні разу не быў тут. Але ў той час цяжка было зрабіць пашпарт з дазволам на выезд за мяжу. Дык гэтыя людзі скλаліся, хто колькі мог, і пан Заблоцкі прывёз Юзафу Грынчуку 60 доляраў на пашпарт. Так дзядзька Юзаф першы раз пабываў на тэрыторыі сучаснай Польшчы. Новыя сябры, Заблоцкія, прымалі яго ў сябе 2 тыдні. Наступны раз Юзаф Грынчук трапіў у Польшчу праз запрашэнне на той з'езд. І там сваімі вершамі заваяваў сапраўднае прызнанне. У яго гонар нават спявалі знакамітае «Сто лят».

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

■ КАНТАКТЫ

## Лаўрэат прэміі імя Шумана – госць «РГ»

**У пятніцу ў рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» гасцяваў лаўрэат Польскай еўрапейскай узнагароды імя Роберта Шумана Гжэгаж Светлік.**

Пан Гжэгаж, па адукацыі гісторык, займаецца папулярызацыяй ідэі еўраінтэграцыі ў мясцовай супольнасці. Ён ганаровы старшыня таварыства гмін паўднёвага захаду Мазовіі (гміны Уязд, Калюшкі і інш.).

Гжэгаж Светлік у гутарцы з галоўным рэдактарам "Рэгіянальнай газеты" **Аляксандрам Манцэвічам** абмяркоўваў магчымыя шляхі інтэграцыі краін Усходняй Еўропы ў міжнародную супольнасць.



**Сустрэча ў рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты»: Гжэгаж Светлік з Польшчы, сузаснавальнік газеты «Регион» за Мар'інай Горкі Алесь Міхалевіч і галоўны рэдактар «Рэгіянальнай газеты» Аляксандр Манцэвіч.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

Візіт польскага госця ў наш рэгіён невыпадковы. Па–першае, паміж гмінамі паўднёвага захаду Мазовіі і Вілейскім раёнам усталяваныя даўнія і трывалыя сувязі – пасля візіту ў рэдакцыі, пан Гжэгаж накіраваўся на сустрэчу да старшыні Вілейскага райвыканкома **Яўгена Сінілы**. Па–другое, продкі Гжэгажа Светліка па мацярынскай лініі – Гісічы – паходзяць са Смаргонскага Залесся і яго ваколіц – Алянца, Міхневічаў. І сёння ў Маладзечне жывуць яго сваякі **Аляксандр Капцюг**, **Вера Мяйсак**. Пан Гжэгаж хрышчоны ў праваслаўнай царкве і ўважае сябе не толькі за паляка, а і за беларуса. Імя сваё ён атрымаў і гонар дзеда Рыгора Гісіча, які ў передваеннай Польшчы быў начальнікам чыгуначнай станцыі Маладзечна.

Пан Гжэгаж Светлік і галоўны рэдактар "Рэгіянальнай газеты" дамовіліся аб супрацоўніцтве на карысць польскага і беларускага грамадстваў: у часе гутаркі запланаваныя кантакты з польскімі мясцовымі газетамі паўднёвага захаду Мазовіі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Польская еўрапейская ўзнагарода імя Роберта Шумана

Заснавальнік Польскай міжнароднай еўрапейскай узнагароды Фонд імя Роберта Шумана створаны ў 1991 годзе. Фонд звяртаецца да вопыту супрацоўніцтва Францыі і Германіі ў 50–я гады мінулага стагоддзя ў пабудове агульнаеўрапейскага дому.

Роберт Шуман, французскі дзяржаўны дзеяч, адзін з ініцыятараў стварэння новай Еўропы – сімвалічная постаць, – які сваёй дзейнасцю даказваў, што Сусвет, Еўропа і людскія каштоўнасці не могуць быць адасобленыя, а мусяць стаць агульным здабыткам усіх.

Місія фонду – падрыхтоўка Польшчы і палякаў да свядомага членства ў Еўрасаюзе. Фонд падтрымлівае ўсе грамадскія ініцыятывы, якія служаць гэтай мэце.

## Рэпертуар Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» на сакавік 2003 года

*9 нядзеля 12.00* П.Васючэнка **"Новы Калабок"**
*16 нядзеля 12.00* Ул.Карастылёў **"Доктар Айбаліт"**
*23 нядзеля 12.00* М.Андрэеў **"Вясёлкі батлейкі"**
*30 нядзеля 12.00* Х.Гюнтэр **"Насарог і Жырафа"**

Чакаем вас па адрасе: Маладзечна, вул. Язэпа Драздовіча, 5в. Даведкі па тэлефоне 53673, 68427. Каса працуе з 10.00 да 12.00 і з 14.00 да 17.00.

■ СУСТРЭЧЫ

## Спявала скрыпка ва ўнісон паэту...

**МАЛАДЗЕЧНА. 14 лютага аматараў беларускай паэзіі і гісторыі запрасіў да сябе на сустрэчу ў цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Максіма Багдановіча настаўнік, гісторык, паэт Лявон Цімохін. І хоць афіцыйных абвестак аб маючай адбыцца імпрэзе не было, прыхільнікаў творчасці Лявона Цімохіна набралася паўнюткая зала. Прыехалі і госці з Мінска, Заслаўя: паэт Сяргей Законнікаў, мастак Аляксей Марачкін, пісьменнік Васіль Гроднікаў.**

Вечар духоўнай паэзіі склаў цыкл зорных вершаў Л. Цімохіна "аб не зусім сумнай гісторыі і аптымістычнай будучыні...", сярод якіх верш "Адкрыццё", які сцвярджае вечнае жыццё Беларусі, і верш "Зорны Вершнік" – сімвал роднай Бацькаўшчыны.

Горыч і роспач гучалі ў вершы "Вечны плач" ад таго, што шмат страчана і загублена ў мове беларусаў. Вуснамі паэта і яго вучняў паўставала гісторыя роднага краю ў вершах "Курган", "Наша мінуўшчына", адвечнае пытанне "Хто мы?" і спроба адказу на яго.

Спявала скрыпка ў руках выкладчыка музычнага вучылішча **Аляксандра Баравіка** аб хараcтве роднага краю і разам з ёю былы дырэктар СШ№5 **Ананій Асіповіч** спяваў старадаўнюю матчыну песню "Ляцелі гусі з далёкага краю..."

Відаць, хораша і ўтульна было на сэрцы слухачоў, бо вельмі цёплымі словамі дзякавалі яны зачынальніку імпрэзы і віншавалі яго з удалым бенефісам і днём нараджэння.

Займела сваю выгоду і бібліятэка: Аляксей Марачкін прэзентаваў ёй альбом манаграфіі "Алесь Мара" з асабістым подпісам.

**Таццяна ЧАБРОЎСКАЯ,**
**загадчыца аддзела абслугоўвання ЦГБ імя Багдановіча.**

# Чаму Каламіец выбраў Беларусь?

### Справа Каламійца не закрытая?

Нягледзячы на заяву Генеральнай пракуратуры Украіны аб хуткім спыненні расследавання факту смерці каля Вязынкі журналіста і гаспадара аднаго з самых уплывовых украінскіх агенцтваў навін Міхаіла Каламійца, гісторыя не закончылася. Міжнародная арганізацыя "Рэпарцёры без межаў", якая базуецца ў Парыжы, заклікала правесці дадатковую экспертызу цела ўкраінскага журналіста.

Французскі паталагаанатам Жан Рывалі браў удзел у экспертызе, якая была праведзеная ў снежні мінулага года і не выявіла прыкмет гвалту.

Генеральны сакратар арганізацыі "Рэпарцёры без межаў" Рабер Менар назваў заўчаснымі высновы пра тое, што журналіст учыніў самагубства як следства адсутнасці прыкмет насілля.

"Было б паспешліва дапускаць, што ён пакончыў з сабой, толькі таму, што вынікі расследавання не маглі давесці адваротнага", – сказаў Менар. "Мы звяртаемся да ўлад з просьбай правесці дадатковыя тэсты, асабліва даследаваць адзенне, у якім Каламіец быў апрануты ў момант смерці", – сказаў генсек "Рэпарцёраў".

Менар кажа, што папрасіў генеральнага пракурора Украіны Святаслава Піскуна высветліць, чаму журналіст выехаў з Украіны.

Заява "Рэпарцёраў без межаў" з'явілася пасля таго, як на мінулым тыдні кіраўнік следчага ўпраўлення Генпракуратуры Украіны заявіў, што дырэктар агенцтва «Українські новини» ўчыніў самагубства і няма прычыны лічыць, што яго да самагубства давілі. Васіль Чэрнікаў спасылаўся на вынікі экспертызы з удзелам Жана Рывалі і паабяцаў неўзабаве завяршыць следства.


Міхаіл Каламіец. Фота «Українські Навіни»

Вынікі некалькіх экспертыз не разбурылі існавання некалькіх версій, якія існуюць ва ўкраінскім грамадстве, аб прычынах гібелі ўкраінскага медыямагната пад Маладзечнам. Часта яны адна другой пярэчаць. Але загадкавасць смерці вядомага на Украіне журналіста не становіцца ад таго меншай. Хутчэй за ўсё сапраўдныя прычыны не будуць раскрытымі, бо Каламіец у свае апошнія дні пазбягаў якіх-кольвечы кантактаў. А што ён думаў у гэты час – мы не даведаемся ніколі.

На сёння ёсць каля трох версій смерці Каламійца. Аб гэтым піша ўкраінскі журналіст Ю.Букаў.

### Версія першая – бытавая

Права на існаванне мае, але выглядае больш чым абсурдная.

Коратка выглядае яна так. У аднаго з аўтараў праекта ўкраінскай газеты "День" магло з'явіцца жаданне нейтралізаваць любоўную сувязь сваёй жонкі Людмілы Рубан з Каламійцам. Менавіта гэта і магло стаць прычынай ціску на дырэктара агенцтва і яго смерці. Аднак, піша Ю.Букаў, муж Людмілы па складзе свайго характару і ў страшным сне не мог бы паверыць у такую версію па шэрагу прычын. А на думку аднаго з калег Каламійца: "Міхаіл пайшоў ад сваёй жонкі не таму, што пазнаёміўся з іншай, а таму, што з часам прыйшло ахаладжанне абодвух. Аднак нармальныя дзелавыя стасункі яны захавалі, а жанчына, якую Міхаіл кахаў, адказвала ўзаемнасцю". Бытавая версія не вытрымлівае элементарнай крытыкі.

### Версія другая – камерцыйная

Выглядае больш рэальна, але не настолькі, каб быць асноўнай. Так, Міхаіл Каламіец быў кіраўніком аднаго з лепшых і ўжо дастаткова ўплывовых агенцтваў у краіне, а яго кошт неафіцыйна ацэньваецца ў 300 тысячаў долараў ЗША. У журналіста само сабой маглі быць ворагі, якім або не падабалася работа самога агенцтва або ў якіх з'явіліся думкі па пытанню адхілення кіраўніцтва ад удзелу ў эканамічнай дзейнасці "Українських навін". У першую чаргу гэта магло закрануць Міхаіла. Гэта версія найбольш палітызаваная.

### Версія трэцяя

Трэцяя версія была агучаная адным з расійскіх выданняў – "Московским комсомольцем". Выглядае яна так: «Кто-то, кому не нравится президент Украины Леонид Кучма, опять его подставил. Зная, как шатается кресло под этим человеком после обвинений в заказе убийства оппозиционного журналиста Георгия Гонгадзе и «кольчужного» скандала, нетрудно представить, на кого обратит взор мировая общественность".

Ёсць і іншыя версіі. Адна з іх – у Міхаіла Каламійца ўзялі "паехаў дах", ён кінуў работу і паехаў у свет, у нейкае Маладзечна, а пасля сам і павесіўся.

Здагадкі, дапушчэнні і нават версіі, працягвае Ю.Букаў, маюць права на жыццё толькі тады, калі яны падмацаваныя логікай. На вялікі жаль, у большай частцы версій логіка адсутнічае ўвогуле.

Галоўнае, пакуль аж да гэтага часу ніхто не можа патлумачыць, чаму журналіст накіраваўся ў Беларусь, адкуль патэлефанаваў родным, а пасля ў лесе каля Маладзечна дырэктара агенцтва знайшлі павешаным.

### Храналогія знікнення

**21 кастрычніка пунктуальны нават у дробязях Міхаіл не з'явіўся на рабоце. Не з'явіўся і пасля гэтага, а на тэлефонныя званкі не адказваў ні па дамашнім нумары, ні па мабільным. Усю інфармацыю ў камп'ютэры на рабочым стале загадзя, відаць, ліквідаваў. І толькі 28 кастрычніка калегі зніклага афіцыйна звярнуліся ў міліцыю. Адбылося гэта пасля таго, як у міліцыю звярнулася Людміла Рубан, якую з Каламійцам звязвалі вельмі блізкія стасункі. Яна паведаміла, што Міхаіл званіў ёй з Беларусі. Ён казаў пра цяжкую жыццёвую сітуацыю і ... урэшце аб самагубстве... 30 кастрычніка труп знайшоў дачнік, які збіраў грыбы ў лесе каля Вязынкі. Пры загіблым не было ніякіх дакументаў, і больш за два тыдні Міхаіл Каламіец лічыўся як невядомы. Гэта слова было напісанае і на таблічцы, якую ўстанавілі на магіле маладзечанскіх гарадскіх могілак у Лазаўцы – 14 лістапада маладзечанская пракуратура выдала дазвол на пахаванне. Праз 4 дні цела эксгумавалі.**

### Грошы Каламійца

**Што будзе з грашыма Каламійца і з агенцтвам "Українські навіни"? Сёння "Українські навіни" належаць украінскаму агенцтву гуманітарных тэхналогій (50% акцый) і Міхаілу Каламійцу.**

На самой справе, як адзначаюць сродкі масавай інфармацыі Украіны, Каламіец быў добрым "архітэктарам". Будынак яго праекта – інфармацыйнага агенцтва "Українські навіни" – меў трывалы падмурак і вельмі дыхтоўны фасад. Да 2002 года па аб'ёмах перадаваемай інфармацыі і колькасці падпісчыкаў агенцтва саступала толькі «Reuters—Україна». Як гаварыў віцэ-прэзідэнт Лігі эканамічных журналістаў Украіны Міхаіл Кухар у інтэрв'ю Кіеўскаму выданню «CN-Сталічныя навіны», на працягу двух тыдняў "ён размаўляў з многімі людзьмі аб старце новых, амбіцыйных праектаў".

Міхаіл Каламіец быў і акцыянерам "Українських навін", ён развіваў гэты праект. Яго смерць вельмі моцна ўдарыла па магчымасці рэалізацыі многіх планаў.

Міхаіл Каламіец планаваў нарасціць капітал агенцтва і, зразумела, свой. Тое, што адбылося пад Маладзечнам, хутчэй за ўсё так і застанецца загадкай.

А 50% акцый "Українських навін" належаць агенцтву гуманітарных тэхналогій (структура міністра эканомікі і еўраінтэграцыі Украіны Валерыя Харашкоўскага). Другія 50 працэнтаў (каля 150 тысяч долараў ЗША) пераходзяць да ўдавы Каламійца і маці.

### Апошні дзень Міхаіла Каламійца скончыўся ў лесе каля Вязынкі

**Месца, дзе павесіўся Міхаіл Каламіец, знаходзіцца ў лесе, у 2,5 кіламетра ад чыгуначнай станцыі "Пралескі" і ў 6 кіламетрах ад шашы, што звязвае Мінск і Маладзечна.**

Сваё жыццё журналіст перарваў на зламанай сасне. Вартаўнік садовага таварыства "Гарызонт" Іван Папоў разам з работнікамі міліцыі былі 30 кастрычніка аднымі з першых на месцы злачынства. Цела Міхаіла Каламійца знайшоў грыбнік, які жыў на дачы непадалёк. Ён расказаў аб знаходцы Івану Папову.

– Каля апоўначы прыехалі 2 работнікі міліцыі, узялі мяне і іншага вартаўніка таварыства, і мы ўчацвярых паехалі ў лес. Паехалі на месца, якое ўказаў грыбнік, і там знайшлі цела, якое вісела на зламанай сасне. Калі цела знялі, яно ўжо было "драўлянае" і цяжка памяшчалася ў міліцэйскую машыну, – успамінае Іван Папоў.

Хто гэта мог быць? Іван Папоў убачыў, што гэта не дачнік з "Гарызонта". Пабач знаходзіцца яшчэ адно садовае таварыства, але і там было спакойна. На тым у "Гарызонце" і супакоіліся. Толькі праз 3 тыдні тут даведаліся, які знакаміты чалавек скончыў у лесе свой шлях.


Вартаўнік таварыства "Гарызонт" Іван Папоў быў адным з тых, хто знімаў цела Каламійца з дрэва. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.


Дрэва ў лесе ля Вязынкі, на якім павесіўся ўкраінскі журналіст Міхаіл Каламіец. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Іван Папоў лічыць, што гэта было самагубства. Чалавек вісеў натуральна, рукі і ногі былі выцягнутымі ў струнку, ніякіх слядоў барацьбы ці гвалту відаць на першы погляд не было. Папярэдне забітага чалавека было б цяжка так роўна павесіць.

Зламаная сасна добра падыходзіць для самагубства. Вярхушка ляжыць на зямлі і ідзе ўверх пад ухілам 20 градусаў. На гэтае дрэва лёгка ўзлезе і дзіця. На вышыні 3,5 метра ад зямлі журналіст наматаў вяроўку і зрабіў пятлю...

Але чаго сюды прыязджаў Каламіец, Іван Папоў здагадацца не можа. 1 лістапада вартаўнік іззноў прыйшоў на месца гібелі Каламійца. Побач з сасной знайшоў палову шакаладкі. Мяркуе, што яна стала апошняй ежай украінскага журналіста.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Псіхалагічная экспертыза Каламійца будзе праведзеная неўзабаве

**Генеральная пракуратура Украіны правядзе псіхалагічную экспертызу абставінаў смерці Міхаіла Каламійца.**

Экспертыза цела пакойнага дырэктара інфармацыйнага агенцтва «Українські новини» Міхаіла Каламійца, якую правялі ў Кіеве, паказала, што Каламійца не забівалі. Але прадстаўнік Генпракуратуры Васіль Чэрнікаў сказаў, што цяпер пракуратура Кіева прызначыла судова-псіхалагічную экспертызу пакойнага Каламійца. Яе правядуць на падставе сведчанняў знаёмых нябожчыка.

Нагадаем, што Ліга эканамічных журналістаў Украіны ў пачатку гэтага месяца накіравала групу прадстаўнікоў у Маладзечна для ўласнага расследавання абставінаў смерці Каламійца. У сустрэчы з журналістамі "Рэгіянальнай газеты", якая прайшла ў рэдакцыі перад ад'ездам украінцаў у Кіеў, яны схільныя былі да версіі аб самагубстве. Такой танальнасці былі і заявы ўкраінцаў па вяртанні на радзіму. Але факт самагубства не гаворыць аб тым, што на Каламійца не рабіўся псіхалагічны ціск.

Маці нябожчыка ў інтэрв'ю ўкраінскаму Грамадскаму радыё сказала, што ў яго былі праблемы, але яны не тычыліся работы: "Мы з ім часта гаварылі. У яго былі праблемы з сям'ёй. Гэты былі чыста асабістыя праблемы. Але такія праблемы бываюць у кожнага чалавека".

# Часопіс гімназіі імя Тамаша Зана

**У Маладзечанскай гімназіі імя Тамаша Зана са студзеня 1934 года, калі яе дырэктарам працаваў Уладзіслаў Люро, выдаваўся штомесячны часопіс «Прамень» – орган гімназічнай моладзі. Гэта было грамадскае і навукова-літаратурнае выданне.**

У склад рэдакцыі ўваходзілі навучэнцы VIII класа гімназіі. Галоўны рэдактар – Часлаў Хамерскі, члены рэдакцыйнай калегіі: Ганна Лазавіцкая, Алена Сабалеўская, Баляслаў Яскевіч, Вінцук Сташкевіч, Віктар Шымкевіч, Часлаў Вішнеўскі, Язэп Пятровіч.

Ініцыятарам стварэння і куратарам часопіса быў настаўнік Аляксандр Матыяшка, высокаадукаваны і адораны філолаг, улюбёны ў культурна-грамадскую дзейнасць.

Назва часопіса "Прамень" падкрэслівала духоўную сувязь навучэнцаў гімназіі з ідэяй Тамаша Зана. Папулярнасць часопіса хутка ўзрастала. Аб ім стала вядома не толькі ў Маладзечанскім павеце, але і ва ўсёй Польшчы. Калі тыраж яго першага нумара складаў з крыху больш за 200 асобнікаў, то другога – 350, чацвёртага – 500, а пятага-шостага за красавік-май 1934 года – 1000.

Франц СВІТА.



Рэдакцыйная калегія "Промня". Сядзяць Ганна Лазавіцкая, Аляксандр Матыяшка, Алена Сабалеўская. Стаяць Баляслаў Яцкевіч, Вінцук Сташкевіч, Віктар Шымкевіч, Язэп Пятровіч, Часлаў Вішнеўскі і Часлаў Хамерскі.

## Тамаш Зан

**Зан Тамаш (Zan Tomasz) нарадзіўся 21 снежня 1796 года ў Мясаце. У 1815 годзе скончыў павятовую школу ў Маладзечне. Скончыў фізіка- матэматычны факультэт Віленскага універсітэта, заснавальнік (6.05.1820) таварыства віленскага студэнцтва "Прамяністыя". Арганізацыя не была тайнай, як згадваюць многія даведнікі, але не прыйшлася даспадобы кіраўніцтву універсітэта. Праз месяц была разагнаная універсітэцкімі уладамі. Тамаш Зан меў вялікі ўплыў на Адама Міцкевіча, з якім моцна сябраваў. У 1823 годзе арыштаваны за ўдзел у тайных таварыствах Філарэтаў і Філаматаў. У 1824 сасланы ў Арэнбург, дзе стварыў мінералагічны музей, браў удзел у тайнай арганізацыі рускіх рэвалюцыянераў. З 1837 года – у Пецярбургу, бібліятэкар у Горным інстытуце. З 1841 года – на Беларусі, пасяліўся каля Оршы, дзе і памёр у 1855 годзе. Аўтар твораў на польскай мове, заснаваных на беларускім фальклоры.**

# «Promień» – першы часопіс у Маладзечне

**Экземпляр "Промня" (здвоены нумар 5–6), знойдзены Францам Світам выпускніцы маладзечанскай польскай гімназіі імя Тамаша Зана Рэгіны Астравух (Астравухавай) не так даўно, захаваўся не вельмі добра. Адсутнічае амаль палова з 56 старонак, якія мелі фармат 1/2 сучаснага стандартнага пісчага аркуша. Між тым нават па захаванай частцы гэтага перыядычнага выдання можна многае аб ім расказаць.**

Выдаўцы, а гэта гімназісты гімназіі імя Тамаша Зана, абазначылі яго як грамадскі і навукова-літаратурны месячнік гімназічнай моладзі. Але, па сутнасці, гэтае выданне стала насіць рэгіянальны характар. Тут змяшчаліся матэрыялы не толькі і не столькі пра ўнутрыгімназічнае жыццё, але і пра жыццё навакол-ля. Публікаваліся матэрыялы з гарадскога (Маладзечна ўжо стала хаця і невялікім, але горадам), суседніх мястэчак – Краснага, Радашкавічаў, Ракава.

Нягледзячы на польскамоўны характар часопіса, знаходзячыся ў рэчышчы старадаўніх традыцыяў, часопіс змяшчаў матэрыялы на фальклорныя і этнаграфічныя тэмы, актыўна ўжываючы жывую беларускую мову.

Аб "Промні" хутка загаварылі па ўсёй тэрыторыі міжваеннай Польшчы. Падпісчыкі былі па ўсёй краіне. Ведалі аб часопісе нават у Жэневе – у Міжнародным адукацыйным мастацкім інстытуце. Цёплыя водгукі "прамянёўцам" даслаў доктар Мечыслаў Дукпта, ганаровы афіцэр французскай Акадэміі навук, ганаровы грамадзянін Швейцарыі.

### «Nasz Lot» застаўся ў планах

Першыя спробы стварыць "Промень" з'явіліся ў час навучальнага 1932–33 навучальнага года. Напачатку была выбраная назва часопіса "Nasz Lot" – "Наш лёт". З-за невытлумачальных прычын, як піша галоўны рэдактар "Промня" Часлаў Хамерскі, стварэнне "Нашага лёту" адсунулася на нявызначаны час.

Спрыяльны для выдання часопіса час наступіў у 1933–1934 навучальным годзе, калі кіраваць гімназіяй замест пана Валашчука стаў пан Аляксандр Матыяшка.

"Новы наш пан прафесар філолаг аказаўся надзвычай энергічным чалавекам, – заўважае ў сваёй публікацыі Часлаў Хамерскі. – Патрапіў імгненна злучыць вакол сябе моладзь часовага ініцыятыўнага камітэта, аднаўляючы ідэю выдання часопіса".

Так з'явіўся "Промень". Назвай падкрэслівалася ідэя Тамаша Зана, ураджэнца Мясаты пад Маладзечнам, які быў адным з арганізатараў і кіраўніком тайнага таварыства студэнцкай моладзі ў Вільні – "Таварыства прамяністых".

### «Промень» – трывалая сувязь з маладзечанцамі

"Энтузіязм сярод моладзі быў вялізны! – піша ў №5–6 Часлаў Хамерскі. – Вестка тая хутка разнеслася па горадзе, дзе з няменшым энтузіязмам куплялі наш "Промень". Нідзе не адмаўлялі, наадварот, вельмі многа грамадзян запісвалася ў сталыя падпісчыкі. Наклад наш з 200 экземпляраў разышоўся надзвычай хутка. Наша гімназія, дзякуючы "Промню", навязала шчырую ніць супрацоўніцтва з жыхарамі горада. У першую чаргу наш часопіс стараўся ўзнімаць справы, якія хвалююць увогуле грамадзян, якія выказвалі ўдзячнасць нашаму органу за звяртання да гарачых праблем, якія не церпяць адкладу.

Сапраўды, наш часопіс можа прэтэндаваць на роль гарадскога штомесячніка, а ў хуткім часе стане выказнікам думкі грамадства ўсяго павету".

### Змест нумара

Нумар 5–6, матэрыялы якога мы цытуем, выйшаў ужо тыражом 1000 экземпляраў. Кошт асобніка складаў 30 грошай. Гэта была немалая цана, але часопіс разыходзіўся і быў запатрабаваны маладзечанцамі, жыхарамі нваколля і іншых раёнаў Польшчы.

Што змяшчаў гэты падвойны нумар?

1. Ліст з сакратарыяту кіраўніка дзяржавы Юзэфа Пілсудскага з падзякай за дасланы экземплр "Промня", дасланы ў дзень імянін маршала.
2. Ліст дырэктара гімназіі Уладзіслава Люро.
3. Рэдакцыйны артыкул.
4. Ужо згаданы артыкул Часлава Хамерскага аб "Промні".
5. Пра акцыі "Промня".
6. Расказ пра падарожжа ў Закапанэ.
7. Інтэрв'ю з выкладчыкам панам Якса–Быкоўскім.
8. Аб неабходнасці пазашкольнай адукацыі.
9. Заметкі аб чэхаславацка–польскіх стасунках, напісаныя гімназістам–васьмікласнікам Якубам Шэпшэволам.
10. Інтэрв'ю на пагранічнай заставе.
11. Мясцовыя вясельныя абрады.
12. Мясцовае святкаванне вялікадня.
13. Як высякаецца лес.
14. Дрыгва.
15. Прадвесне.
16. Вясна.
17. Радашкавічы.
18. Хроніка з сусвету, з Польшчы, мясцовая.
19. Агляд прэсы.
20. Адказы рэдакцыі.
21. Раздзел адпачынку.
22. Рэклама.

### Мясцовая хроніка

Вельмі насычаны раздзел мясцовай хронікі. Тут і пра работу розных таварыстваў; пасяджэнне педагагічнага савета гімназіі; стварэнне фонду Марской абароны; гаспадарчы з'езд павету; утварэнне беспартыйнага Блоку супрацоўніцтва ў Маладзечне; курсы супрацьгазавай абароны; аб жыццi чытучначнікаў; аб рабоце рамеснікаў у Ракаве, Радашкавічах, Гарадку, Красным і Маладзечне; рабоце самакіравання; падзеях у яўрэйскім клубе дзяржаўнай думкі; святкаванні Дня канстытуцыі 3–га мая, свяце песні...

### У лес ля Лазаўца

Вось што, напрыклад, паведамлялася пра акцыю "Свята лесу":

23 красавіка ў старостве паўстаў пад кіраўніцтвам пана інжынера Важэхі камітэт па правядзенні "Свята лесу".

У склад камітэту ўвайшлі: старшыня пан інжынер Важэха, намеснік пан настаўнік Анцэвіч, члены: пан інжынер Бутарэвіч, пан інжынер Міраневіч, пан Б.Віткоўскі і пан Ц.Вткоўскі.

28 красавіка а 9–й гадзіне гімназічная моладзь пад кіраўніцтвам сваіх выхавацаў рушыла ў бок сярэдняй школы №1, адкуль разам з дзятвой з гэтай школы пайшлі па дзяржаўную дарогу, каб пасадзіць дрэўцы. Пасля накіраваліся ў лес (каля Лазаўца), дзе пасля выканання мастацкай часткі праграмы таксама прыступілі да пасадкі дрэў. Перад школай №1 выступаў пан кіраўнік Лукашэвіч, на заканчэнне пан інжынер Важэха падзякаваў ад імя арганізацыйнага камітэту.

### Часопіс і культура

"Промень" шмат увагі надаваў культурным падзеям. Расказваў аб свяце песні, аб канцэрце духавога аркестра 86–га палка пяхоты, што кватараваў у Маладзечне. Канцэрт праходзіў у кінатэатры "Байка". Не абыходзіў увагай тэатральнае жыццё. 10 сакавіка 1934 года ў Маладзечна з Вільні прыехала трупа Віленскага Гарадкога тэатра з англійскай камедыяй "Кабета і смарагд": "Спектакль не адзначаўся ані арыгінальнасцю, ані глыбінёй спасціжэння жыцця, – піша крытык–гімназіст. – Таму ўсё выглядае банальным. Але чаму ў гэтага спектакля такі поспех? Мусіць, на дасканалай рэжысуры, на добра абдуманых сітуацыях, на канфліктах, якія развязваюцца вельмі хутка, а перадусім на дасканала зыграным калектыве акцёраў".

Даволі падрабязны агляд кінаафішы. З папрокамі ў адрас "бальшавізму на сярэбраным экране". Што цікава, у 1934 годзе ў Маладзечне дэманстраваўся камедыйны фільм "12 крэсел", дзе ігралі два комікі Дымша і Бур'ян. Ці не польская экранізацыя Ільфа і Пятрова?

Адзіны асобнік "Промня", пра які вядома нам, дайшоў не вельмі добра захаваным. У фондах Мінскага абласнога краязнаўчага музея захоўваецца справаздача дырэкцыі дзяржаўнай гімназіі імя Тамаша Зана ў Маладзечне за 1930–1931 навучальны год. Але, на жаль, ніводнага экземпляра папулярнага ў 30–я гады мінулага стагоддзя маладзечанскага часопіса "Промень" няма.

### Post scriptum

У часе падрыхтоўкі гэтага нумара «Рэгіянальнай газеты» Рэгіна Захараўна Астравух знайшла сярод свайго архіву яшчэ адзін нумар «Промня». Датаваны сакавіком 1936 года. Захаваўся цалкам. Выглядае шмат сціплейшым за той, з якім мы пазнаёміліся папярэдне, выдадзены пры дапамозе ратапрынта на 12 старонках.

Алесь МАНЦЭВІЧ.

# Мікрахвалі працуюць на кухні

## З гісторыі

**Гэтая гісторыя з'яўлення мікрахвалевай печы многім невядомая.**

**Новая эра на кухні пачалася, калі амерыканскі інжынер П.Б.Спэнсэр пры даследаванні работы выпраменьвальніка ЗВЧ-хваляў – магнетрона – знайшоў, што пры пэўнай частаце выпраменьвання назіраецца інтэнсіўнае выдзяленне цяпла. У 1945 годзе Спэнсэр атрымаў патэнт на выкарыстанне мікрахваляў у прыгатаванні ежы, а ў 1949 па ягоным патэнце ў ЗША былі выраблены першыя мікрахвалевыя печы для хуткай размарозкі стратэгічных запасаў прадуктаў.**

**У 1962 годзе японская фірма SHARP наладзіла масавую вытворчасць бытавых мікрахвалевых печаў. Нельга сказаць, што іх адразу сустрэў ажыятажны попыт. Масавую свядомасць насцярожвалі звышвысокія частоты (ЗВЧ). На самрэч усё не так страшна. Прыгатаванне ежы пры дапамозе мікрахвалевай печы – гэта электрамагнітнае ўзрушэнне малекул вады, якая ўтрымліваецца ў прадуктах. Імгненна пранікаючы, напрыклад, у глыбіню кавалка мяса, хвалі паглынаюцца малекуламі вады, якія ўтрымлівае мяса. Ад гэтага малекулы ўзрушаюцца, іх цеплавыя ваганні ўзмацняюцца, яны сутыкаюцца адна з адной. А гэта і ёсць прычына павышэння тэмпературы. Такое ж узмацненне ваганняў і сутыкненняў малекул адбываецца, калі традыцыйна паставіць страву гатавацца на агонь. З той толькі розніцай, што ад агню ўзрушэнне малекул павольна перадаецца ад вонкавых слаёў да ўнутраных. А вось мікрахвалевая энергія імгненна пранікае на глыбіню ад 2,5 да 5 см (таму больш тоўстыя кавалкі лепш разразаць).**

**Прысутнасць солі прыкметна паскарае награванне ў МХ-печы. Але соль павінна быць поўнасцю распушчанай. З іншага боку, падсоленыя перад гатаваннем мяса, гароднінa доўгатэрміновага захоўвання могуць атрымацца цвердаватымі і сухаватымі. Так што лепш саліць такія прадукты перад спажываннем.**

**Урэшце, усё вам падкажа ваш вопыт.**



**Сёння мікрахвалевая печ можа ўсё. І дома, і ў прэстыжным рэстаране, і проста ў кафэшцы-забягалаўцы. Першыя мікрахвалевыя печы на нашых кухнях з'явіліся гадоў 10–12 таму, хаця ў еўрапейскіх краінах яны ўвайшлі ва ўжытак у пачатку 60–х. Але нават тыя, хто ўжо даўно набыў МХ–печы, скарыстоўваюць іхнія магчымасці ў лепшым выпадку на 30%. На самой справе, у мікрахвалевай печы можна прыгатаваць практычна ўсё. А самае галоўнае, – яна дазваляе зэканоміць вялізную колькасць часу, а значыць, грошай.** Фота IREX/ProMedia.

## Крыху тэорыі для пакупнікоў

**Прынцып** дзеяння мікрахвалеўкі просты. Энергія распаўсюджваецца ў форме высокачастотных хваляў, падобных на радыёхвалі, але толькі шмат карацейшых. Менавіта таму МХП называюць яшчэ печамі звышвысокіх частотаў (ЗВЧ–печы). Мікрахвалі праходзяць праз некаторыя матэрыялы – шкло, фарфор, гліну, пластмасу, паперу, таму гэтыя матэрыялы ідэальныя для выкарыстання ў МХП. А з-за таго, што МХП гатуе хутчэй, то і вітаміны, і пах саміх прадуктаў захоўваюцца лепш, а значыць, стравы атрымліваюцца смачней і карысней, чым прыгатаваныя традыцыйнымі спосабамі.

Цяпер МХП выпускаюць самымі рознымі па дызайне, аб'ёме і, канечне ж, функцыях, таму пры пакупцы неабходна звярнуць увагу на наступныя моманты.

**Наяўнасць розных рэжымаў.** Многія гаспадыні папракалі МХП першых пакаленняў за тое, што ў іх немагчыма было запячы мяса да залацістай скуркі, і яно атрымлівалася хутчэй вараным, чым смажаным. Гэтая праблема цалкам вырашаная. Многія сучасныя МХП аснашчаныя не толькі традыцыйным ЗВЧ (мікрахвалевым) рэжымам, але і рэжымам "грыль", а таксама камбінаваным.

Гэта азначае, што вы можаце сумяшчаць усе перавагі МХ–прыгатавання (хуткасць, захаванне вітамінаў, карысных рэчываў і водару) і ў той самы час лёгка дабіцца запякання да хрумсткай скарынкі. **Цеплаэлектранагравальны грыль** стварае эфект духоўкі. Дадатковым плюсам з'яўляецца тое, што гатаваць у МХ-печы можна без тлушчу, што робіць страву больш здаровай за кошт меншай колькасці халестэрыну і канцэрагенаў.

Некаторыя мадэлі МХП аснашчаныя функцыяй **"аўтапрыгатаванне"**. У арсенале: папкорн, стравы ў каструлі, напіткі, стравы ў талерцы, рэжым "комбі", рэжым "грыль". Усе гэтыя праграмы забяспечваюць аптымальную камбінаваную цеплавую апрацоўку з выкарыстаннем мікрахваляў і грыля.

**Лічбавы таймер** – гэта магчымасць праграмавання дакладнага часу цеплавой апрацоўкі. Функцыя асабліва важная для тых, хто ведае толк у кулінарыі і імкнецца да эксперыменту.

**Аб'ёмы печаў.** Найчасцей на нашым рынку сустракаюцца печы ад 17 да 28 літраў. Хаця ёсць і меншыя, сустракаюцца і большыя. Калі вы аматар гуся ў яблыках, то вам лепш набыць большую печ, каб гэтая птушка змагла без праблемаў размясціцца.

**Працэс разагрэву.** Разагрэць у МХП можна практычна ўсё, нават малако для дзіцяці (15–20 секунд). Больш таго, учарашнія піражкі за якіх–небудзь 20–30 секунд набудуць свежавыпечаны выгляд і выдатны смак, таксама можна зрабіць свежым і чэрствы хлеб. Ды і іншыя прадукты могуць быць разагрэтыя за 2–3 мінуты. Гэтыя перавагі асабліва адчувальныя для тых, у каго дома электрычная пліта, якая разаграваецца вельмі доўга.

**Мікрахвалевыя печы прадастаўляюць вам адчувальныя перавагі: адтайваць, разаграваць, смажыць без тлушчу, хутка гатаваць нават замарожаныя прадукты, захоўваючы вітаміны, карысныя рэчывы і водары, у любы час падаваць на стол гарачыя стравы. Пры гэтым, запраграмаваўшы рэжым гатавання, вы спакойна можаце заняцца іншымі справамі, бо печ сама прасігналізуе, што яна перастала гатаваць.**

## Ці ведаеце вы, што...

### Менш солі, менш спецый

Прадукты, прыгатаваныя ў мікрахвалевай печы, лепш захоўваюць свой натуральны пах, таму стравы патрабуюць нашмат менш солі і спецый.



### Вялікія і маленькія порцыі

Калі дазваляе рэцэпт і змяшчальнасць печы, то лепш гатаваць стравы ў некалькіх невялікіх ёмістасцях. Такім чынам, вы паскорыце працэс прыгатавання, палепшыце якасць (прадукты лепш прасмажацца або праварацца) і атрымаеце адразу гатовыя асобныя порцыі.



### Плоскія формы

Наступная важная парада – аддавайце перавагу плоскім формам. Час прыгатавання ў плоскай місцы істотна меншы, бо яна мае большую паверхню і энергетычнае ўздзеянне на прадукты размеркаванае аднастайна.



### Круглыя формы

Выкарыстоўвайце для прыгатавання страў у мікрахвалевых печах пераважна круглыя формы. Недахоп квадратных або прамавугольных форм палягае ў тым, што вуглы пры паварочванні аказваюцца бліжэй да крыніцы мікрахваляў (яна знаходзіцца найчасцей ў бакавой сценцы), і за кошт гэтага хутчэй награваюцца. У выніку прадукты ў гэтых месцах часта падгараюць.



## Між іншым...

У мікрахвалевай печы можна сушыць розныя прыправы і грыбы. Прыправы дробна рэжуцца і кладуцца ў печ паміж двума аркушамі паперы. Грыбы сушацца на талерачцы.





У печы лёгка і хутка прыгатаваць сухарыкі (або на французскі манер "Croutons". Нарэжце хлеб або булачку на дробныя кавалачкі і пастаўце ў печ пры поўнай магутнасці на 3–4 мінуты.

Калі вы гатуеце соус і дадаяце розныя прыправы, то, паставіўшы яго на 10–20 секунд пры поўнай магутнасці ў печку, вы дасягнеце незвычайнага водару. Асабліва эфектыўны спосаб пры выкарыстанні сухіх або замарожаных свежых прыправаў.





Для хуткага размочвання вазміце 250 г сухафруктаў, дадайце некалькі лыжак вады і пастаўце ў печ пры поўнай магутнасці на 2–3 хвіліны.

# Патрапляе густу кожнага

## Якую печ купіць?

### Вызначаемся з едакамі

Можна купіць печ 17–літровую, а можна 34–літровую. Якая вам больш падыходзіць? Першыя прызначаныя для 2–3 чалавек, і цэлая курыца ў яе можа і не змясціцца. Аб'ём у 23 літры цалкам дастатковы для прыгатавання ў мікрахвалевым рэжыме, але ўвесь патэнцыял грыля пры гэтым задзейнічаць цяжка. Сярод мікрахвалевых печак з грылем у беларускіх пакупнікоў найбольшай папулярнасцю карыстаюцца печкі аб'ёмам 27/28 літраў.

### Што мы будзем гатаваць?

Прадукты, прыгатаваныя з дапамогай толькі аднаго мікрахвалевага выпраменьвання, будуць па сутнасці адварнымі. І калі вы збіраецеся выкарыстоўваць печку толькі для падагрэву, размарозкі прадуктаў і варкі сасісак на сняданак, то на гэтым можна і спыніцца. Ну а калі вы аматар гатаваць або паесці, вам неабходная печка мінімум з грылем.

### З ражном

Сапраўдныя аматары любяць класічны грыль. Прадукт, варочаючыся на ражне, смажыцца ва ўласным соку. У некаторых мадэляў ЗВЧ–печаў сустракаюцца вертыкальныя ражны. Гэта не лепшы варыянт ражна.

### Як запячы кішку з дранкай?

Акрамя мікрахвалевага выпраменьвання і верхняга грыля, печка можа мець і трэцюю крыніцу цяпла – канвекцыю. Вентылятар ганяе гарачае паветра ў камеры печы, каб больш раўнамерна прасмажыць мяса, тоўстыя фаршыраваныя кішкі або прапячы пухнатае цеста.

### Кнопачкі і ручачкі

Застаецца падабраць больш зручнае кіраванне. Яно бывае простае механічнае, калі дзвюма рукаяткамі вы задаяце магутнасць выпраменьвання і заводзіце таймер–будзільнік. Кнопачнае або сенсарнае (па сутнасці таксама кнопачнае, але кнопкі адвочна не выдзяляюцца). Але на сёння найбольшую папулярнасць набывае электроннае кіраванне з магчымасцю дыялога з карыстальнікам, якое будуецца па прынцыпе: менш кнопак, больш функцый.

## Рынак ЗВЧ-печаў

**У структуры продажу на беларускім рынку бытавой тэхнікі мікрахвалевыя печы ўжо займаюць прыкметна большую ролю, чым пліты. Пастойце на рынку, хаця б у Ждановічах, ля прадаўцоў МХП. Печы ідуць на ўра. Асабліва папулярныя ў нас Samsung і LG. (Першыя лічацца больш надзейнымі і прэстыжнымі). Ёсць таксама Bosh і іншыя. У любым універмагу вам прапануюць некалькі мадэляў, а то і дзесяткі мадэляў. Цэны ўжо могуць пачынацца ад 50-ці долараў за печ.**

Яшчэ карыстаюцца попытам у нас карыстаныя печы, прывезеныя са звалак Германіі, але мікрахвалеўкі настолькі імгненна ўварваліся на наш рынак, што цэны на новыя печы імкліва пайшлі ўніз. Цалкам нармальную печ з паваротным сталом і грылем можна купіць за 90–100 долараў. Яны сталі дзешавейшымі за газавыя і электрычныя пліты, дзе шмат менш функцый. Зніклі з прылаўкаў печы беларускай вытворчасці (вядомую некалі "Белую вежу" вырабляў авіярамонтны завод і яшчэ некалькі прадпрыемстваў). Мікрахвалевая печ перастала быць прадметам гонару, а становіцца прадметам першай неабходнасці, калі людзі ўсё больш стараюцца зберагчы свой час, клапоцяцца аб здароўі. Яны кампактней пліт і добра месцяцца проста на стале. А іхнія магчымасці ў выкананні рэцэптаў усёй кулінарнай кнігі аж да печыва практычна тыя ж самыя (калі навучыцца правільна карыстацца, што зусім не цяжка). Мікрахвалевыя печы эканомней звычайных электрычных пліт і іх прасцей утрымліваць у чысціні.

Для многіх, хто купляе МХ–печ, як дадатковы прыбор для размарожвання прадуктаў і падагравання страў, яна вельмі хутка становіцца асноўным сродкам для прыгатавання ежы. МХ–печ не стварае характэрнай кухоннай атмасферы з духатой, жарам і пахамі страў. Прычым на працягу ўсяго цыклу прыгатавання можна пры жаданні адчыняць дзверцы, перамешваць, дадаваць інгрэдыенты, правяраць гатоўнасць. І ўсё гэта без небяспекі страты цяпла і парушэння рэжыму прыгатавання. У МХП высокі КПД: практычна ўся энергія ідзе на прыгатаванне ежы, а не награванне кухні.

Тым не менш, па дадзеных статыстыкі, насычанасць рынку мікрахвалевымі печамі ў краінах СНД складае ўсяго некалькі працэнтаў, у той час калі ў ЗША яна ўжо перавысіла 90%. Так што ў нас усё яшчэ наперадзе!

## Перавагі

**Мікрахвалеўка мае дзве проста агромністыя перавагі перад звычайнай печкай.**

### Рэжым размарожвання

Хто з жанчын не забываўся выкласці ад раніцы фарш з маразілкі? Калі вячэра ва ўсю павінна кіпець, мяса замерзла, нібы айсберг, і нават цёплы струмень вады дапаможа вам не вельмі хутка. Уключыце рэжым размарожвання і праз колькі хвілін бярыцеся за прыгатаванне.

### Хуткасць

Максімальны час прыгатавання ў мікрахвалевай печы ўсяго 35 мінут! Але гэта крайні выпадак. Як правіла, гэта адбываецца куды хутчэй. Напрыклад, мяса па–французску або кураня засмажаць за 14 мінут.

Няшмат больш часу займе варка буракоў – 16 мінут, а морквы – 7-8 мінут.

## Ці ведаеце вы, што...

### Гародніна і мікрахвалевая печ

**Гародніна, якая ўтрымлівае вялікую колькасць вады (памідоры, агуркі, шпінат), а таксама грыбы гатуюцца з невялікім дадаваннем вады (1–2 ст.л. на 500 г гародніны).**

Гародніна, якая ўтрымлівае невялікую колькасць вады (морква, бульба, капуста, гарох), патрабуе большай колькасці вады (вада павінна пакрываць дно посуда) і гатуецца больш працяглы час.

**Для таго, каб гародніна праварылася раўнамерна, старайцеся наразаць аднолькавыя па велічыні кавалачкі. Чым меншыя кавалачкі, тым большы час прыгатавання.**



Калі вы гатуеце гародніну цалкам або фаршыруеце яе, то перад прыгатаваннем наколіце некалькі разоў відэльцам паверхню плода. Гэта палепшыць выпарэнне пары і засцеражэ гародніну ад разрыву.



**Каб налітая вамі вадкасць не выпаралася і гародніна не высахла, абавязкова накрывайце посуд накрыўкай. Лепш за ўсё падыходзіць шкляны посуд са шчыльнымі, але не зусім герметычнымі крышкамі. Можна выкарыстоўваць таксама харчовую плёнку.**

Гародніну трэба пасаліць пасля прыгатавання або распушчаць соль у вадкасці. Інакш крупінкі солі ўбіраюць у сябе вільгаць і ўтвараюць на паверхні гародніны высахлыя ўчасткі.

### Мяса і рыба ў мікрахвалевай печы

**Кавалачкі рыбы неаднолькавай таўшчыні кладуцца ў посуд асаблівым чынам. А менавіта тонкімі часткамі да сярэдзіны. Тоўстыя часткі патрабуюць для прыгатавання больш часу і больш энергіі. У гэтым выпадку і падойдзе якраз квадратная форма.**

Калі вы гатуеце рыбу цалкам, то укладвайце яе так, каб тонкія і вузкія ўчасткі перакрывалі адно другое. Такім чынам, па ўсім дыяметры дасягаецца раўнамерная таўшчыня. Спачатку пакладзіце рыбу жывоцікамі ўверх, а праз палову часу, неабходнага для прыгатавання, перавярніце рыбу спінкамі ўверх.



**Для засмажвання мяса кавалкам лепш за ўсё прытрымлівацца наступнага правіла. На дно формы кладзецца невялікі перавернуты дном уверх спадачак, а затым толькі кавалак мяса. Прычым мяса кладзецца спачатку тлустай часткай уніз, а праз палову часу, неабходнага для прыгатавання, пераварочвайце гэтым бокам уверх.**



Кавалкі курыцы маюць неаднолькавую таўшчыню, і вузкія часткі звычайна хутчэй гатуюцца і прыгараюць. Каб папярэдзіць гэта, загарніце спачатку кончыкі ў фальгу (фальга адбівае электрамагнітныя хвалі). Праз некаторы час фальгу можна прыбраць. І не забывайцеся, што вузкія часткі кладуцца як мага далей ад краю посуду.



## Рэцэпты

### Рыбныя катлеты

**500 г хека або іншай нятлустай рыбы, 80 г батона (або белы хлеб), паўшклянкі малака, 3 ст. лыжкі паніровачных сухароў, 2 ст. лыжкі алею, 1 яйка.**

Чэрствы батон разрэзаць на кавалкі і адмачыць у малацэ. Рыбнае мяса, ачышчанае ад костак, двойчы прапусціць праз мясарубку, змяшаць з батонам, дадаць соль, перац, сырое яйко і перамяшаць да атрымання аднароднай масы. Можна дадаць дробна нарэзаную цыбулю. З атрыманай масы сфарміраваць катлеты, абкачаць у паніровачных сухарах. Укласці ў посуд, папырскаць алеем і гатаваць пры поўнай магутнасці (800–900 Вт) 7–8 мінут.

### Выразка свіная ў піве

**500 г свіной выразкі, 1 шклянка светлага піва, 1 вялікая цыбуліна.**

Мяса змясціць у прыдатны посуд, заліць півам і пасыпаць дробна нарэзанай цыбуляй. Прыкрыць накрыўкай і запякаць у печы 8–10 мінут пры магутнасці 900 Вт. Гатовае мяса пакінуць пад накрыўкай на 5 мінут.

### Цяляціна з сырам у рулеце

**200 г цяляціны або ялавічыны, 1–2 зубкі часнаку, 2 ст. лыжкі маянэзу, зялёная пятрушка, соль, перац.**

Мяса нарэзаць вялікімі кавалкамі, добра адбіць, пасыпаць солляю, перцам, пакрышаным часнаком, змазаць маянэзам і пакінуць на 4–6 гадзін (можна на ноч). Пасля на кавалкі мяса пакласці нарэзаны кавалачкамі сыр, згарнуць іх у выглядзе рулета, праткнуць драўлянымі шпількамі і ўкласці на блюда. Змясціць у печ пры максімальным узроўні магутнасці. Падаць з халодным гарнірам, упрыгожыўшы пятрушкай. Асобна можна падаць соус з маянэза і хрэна або кетчуп.

### Запяканка з квацістай капусты

**1 галоўка квяцістай капусты, 2/3 шклянкі вады, 1 цыбуліна, 150 мл малака, 50 мл смятанкі, 2 яйкі, 200 г цёртага сыру (Расійскі, Пашахонскі і да т.п.), соль і спецыі (перац, магчыма цёрты мускатны арэх...)**

Цыбулю пачысціць, парэзаць, патушыць у маленькай пасудзіне пры максімальнай магутнасці 2–3 мінуты. Пачысціць квяцістую капусту, памыць і разабраць на "ружачкі".

Наліць у міску ваду, пакласці туды капусту і варыць у закрытым становішчы 6–7 мінут пры максімальнай магутнасці.



У гэты час заняцца прыгатаваннем соусу: перамяшаць малако і яйкі, дадаць да іх тушаную цыбулю і палову цёртага сыру, пасаліць заправіць спецыямі.

Даць сцячы вадзе з адварных "ружачак" капусты, пасля чаго размеркаваць па ўсім дне плоскай формы. Заліць соусам, а зверху пасыпаць цёртым сырам, які застаўся.

Паставіць форму на паваротны стол МХ–печы і гатаваць страву 14–15 мінут пры 70% ад максімальнай (900 Вт) магутнасці.

Пры прыгатаванні гэтай стравы да капусты можна дадаць нарэзаную кавалачкамі шынку або проста добрую вараную кілбасу і запячы.

# Стагоддзе В. Жук-Грышкевіча



**Жук-Грышкевіч Вінцэнт Антонавіч (23.2.1903, в. Будслаў Мядзельскага р-на Мінскай вобл. — 14.2.1989), дзеяч беларускай эміграцыі, педагог, літаратуразнавец, гісторык. Доктар філасофіі (1952). Скончыў Віленскую бел. гімназію (1922), Пражскі універсітэт (1927). У 1927—39 настаўнічаў у Вільні. Пасля заняцця горада Чырвонай Арміяй (1939) арыштаваны органамі НКУС, засуджаны на 8 гадоў і зняволены ў Пячлаг (Комі АССР). У 1942 вызвалены па амністыі, у складзе арміі Андэрса ваяваў супраць нямецкіх фашыстаў. У 1970—82 — старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на эміграцыі. Аўтар кнігі «25 сакавіка» (1978).**

## Ушанавалі памяць земляка

**МЯДЗЕЛ. У Куцькаўскай сярэдняй школе адбыўся вечар, прысвечаны стагоддзю з дня нараджэння вялікага патрыёта беларушчыны доктара філасофскіх навук ураджэнца Мядзельшчыны (в.Будслаў) Вінцэнта Жук-Грышкевіча.**

Біяграфію земляка распявала загадчыца Куцькаўскай бібліятэкі Анішчанка Марыя Іванаўна. Пра сустрэчы В.Жук-Грышкевіча са знакамітымі людзьмі Я.Купалам, М.Гарэцкім, Л.Чарняўскай, Э.Будзькам, А.Станкевічам, І.Дварчанінам, А.Клімовічам і іншымі расказаў настаўнік-пенсіянер І.Драўніцкі. Была адзначана яго вялікая работа па прапагандзе беларускай культуры за мяжой. Да вечарыны была прымеркавана невялікая выстаўка: партрэты В.Жук-Грышкевіча, М.Гарэцкага, Я.Купалы, Н.Арсенневай, М.Танка, А.Клімовіча, Л.Чарняўскай, А.Станкевіча, кніга "Памяць" з біяграфіяй Вінцэнта, хрэстаматыя беларускай літаратуры сябра В.Жук-Грышкевіча былога настаўніка Свірскай школы І.Дварчаніна, партрэт Віктара Адамовіча з в. Чэхі (Мядзельшчына), які напісаў песню "Макі Монта-Касіна", пра бітву з фашыстамі, у якой прымаў удзел В.Жук-Грышкевіч і атрымаў 4 узнагароды. Лаўцова Марына прачытала верш Н.Арсенневай, прысвечаны Вінцэнту, Казлова Дар'я – радкі з верша яго дачкі Рагнеды, прысвечаныя тату.

У канцы вечара правялі віктарыну па грамадска-навуковай дзейнасці і жыццёваму шляху земляка. Пераможцы ганараваны прызамі.

Яська ГРЫЗЧЫК.

**У лютым спаўняецца 100 год з дня нараджэння Вінцэнта Жук-Грышкевіча — педагога, літаратуразнаўца, гісторыка, адметнага дзеяча беларускай эміграцыі.**

### Дзяцінства ў сям'і хлебаробаў

Нарадзіўся ён 10 (23) лютага 1903 года ў мястэчку Будслаў у сям'і Марыі і Антона Грышкевічаў, незаможных хлебаробаў. У сям'і было шасцёра дзяцей, Вінцэнт — самы малодшы. Укладальніца кнігі пра мужа Раіса Жук-Грышкевіч піша:

"З маленства палюбіў Вінцук лес, рэчку і вудзеньне рыбы. У лесе ведаў ён кожную хвойку, сьцяжынку і палянку. Ведаў, дзе хаваюцца баравікі, рыжыкі й іншыя грыбы. Прыносіў іх кошыкамі маме, якая ўмела, як ніхто, прыпраўляць ды перахаваць іх на зіму. Сушаны баравік быў добрай акрасай поснай стравы ўзімку, а вянок сушаных баравікоў можна было прадаць на рынку й зарабіць капейку на соль і газу. Зімовымі вечарамі тата Антон зарабляў, шчапаючы драніцы, якімі людзі крылі стрэхі будынкаў. Тата быў майстра! За штоб ні ўзяўся, штоб ні зрабіў, было выканана дасканала, прыгожа. Мама вечарамі прала й пяяла. Мела добры слых і цудоўны голас, ведала шмат народных песень".

У Будслаўскім касцёле Вінцук прыслужваў да імшы, урыўкі з якой на лацінскай мове вывучыў на памяць. Добра іграў на скрыпцы і гармоніку. Клікалі яго іграць на вечарынках і вясellях, гэтак зарабляў грошы ці кілбасы. Па-беларуску хлопец навучыўся чытаць у 1912 годзе па "Беларускім календары" і газеце "Наша ніва".

### Вучоба ад Будслава да Прагі

У 1915 годзе Вінцэнт паспяхова закончыў двухкласнае прыходскае вучылішча. Узімку багацейшыя сяляне суседняй вёскі Васілеўшчына бралі яго як хатняга настаўніка для сваіх дзяцей, ён там і школку арганізаваў. Калі ў Будславе адкрылася беларуская гімназія, Вінцэнт паступіў сюды вучыцца. Успамінае: "Цяга да навукі ў людзей была такая вялікая, што існуючыя там толькі чатыры класы зьмясцілі больш за 300 дзяцей. Гімназія працавала нармальна й пад нямецкай акупацыяй у 1918 годзе. Немцы цікавіліся толькі, каб была добра пастаўлена нямецкая мова і каб сярод вучыцялей не было бальшавікоў". Але польскія ўлады ў 1920 годзе гімназію закрылі, а хлопец вельмі жадаў працягваць вучобу. Неяк трапіла яму ў рукі абвестка, што ў Вільні працуе беларуская гімназія. Ён самастойна рыхтуецца, праходзіць збольшага матэрыял за 5-ы клас. Едзе ў Вільню. Той дзень, калі перайшоў праз браму Базыльянскіх муроў і пераступіў парог 1-ай Віленскай беларускай гімназіі, называе адным з найважнейшых у сваім жыцці. У дырэктара Міхася Кахановіча просіць дазволу здаць экзамены за 5 клас. Здае іх паспяхова, і яго прымаюць у 6 клас. Кватэру знайшоў у свайго земляка, а са сродкамі для існавання дапамаглі суседзі з Будслава Эдвард Будзька і Язэп Гапановіч. Яны ўладкавалі яго на працу ў Беларускі спажывецкі кааператыў "Райніца". Утрымацца ў Вільні матэрыяльна было цяжка. Хлопец інтэнсіўна займаецца, каб за адзін год закончыць два класы. І гэта яму ўдаецца: у 1922 годзе заканчвае навучанне ў гімназіі і паступае ў Карлаў універсітэт у Празе на факультэт славянскай філалогіі і гісторыі. Там належаў да беларускіх студэнцкіх арганізацый. Па заканчэнні універсітэта прыязджае ў Вільню і ўладкоўваецца на працу ў беларускай гімназіі настаўнікам гісторыі, беларускай мовы і літаратуры, вядзе ўрокі роднай мовы ў праваслаўнай духоўнай семінарыі. Разам з працай, актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці, становіцца сябрам "Беларускага навуковага таварыства", "Беларускага вучыцельскага саюзу" і "Таварыства беларускай школы", супрацоўнічае з рознымі газетамі і часопісамі ў Вільні.



**Вучні першага класа Віленскай беларускай гімназіі 1927-1928 школьнага года разам з класным выхаваўцам Вінцэнтам Жук-Грышкевічам.**

### "Шпіён" імперыялізму ў савецкіх турмах

У 1939 годзе Вільню займае Чырвоная Армія. Ужо ў канцы верасня многіх з выкладчыкаў беларускай гімназіі арыштоўваюць органы НКУС. Вінцэнт Жук-Грышкевіч утрымліваецца адразу ў Лукішках у Вільні, потым у турме ў Беластоку і Вілейцы. Успамінае: "І тут была яшчэ горшая цесната, голад з той самай баландой, ніякае сувязі з роднымі, ніякіх перадачаў. На прахадку выводзілі толькі рэдчас... Выклікалі мяне на допыты шмат разоў. Вялікія допыты вельмі брутальна, білі па твары, па галаве, прыстаўлялі да галавы рэвальвэр. У часе аднаго з гэткіх допытаў мяне зьбілі так, што я самлеў, няпрытомнага мяне занесьлі ў карцэр, дзе трымалі тры дні. Гэта была вельмі цяжкая зіма 1939-40 году, а карцэр не агравалі".

Адразу абвінавачвалі ў шпіянажы супраць СССР, потым — у працы ў беларускіх "буржуазных" установах. У 1940 годзе як "сацыяльна небяспечнага элемента" засудзілі на 8 год папраўча-працоўных лагераў. Адбываў зняволенне ў Пячлагу (Комі АССР).

### У баях з фашызмам

У 1942 годзе на тэрыторыі СССР пачалося фарміраванне польскага войска. Залічвалі ў яго і былых польскіх грамадзян, якія знаходзіліся ў турмах і лагерах. Восенню В. Жук-Грышкевіч трапіў у армію Андэрса. У 2-ім польскім корпусе у складзе 8-ай брытанскай арміі быў у Іраку, Егіпце, Палесціне, Італіі. Удзельнічаў у бітве пад Монтэ-Касіна ў маі 1944. За удзел у вайне супраць фашыстаў ганараваны 4-ма медалямі.

### У эміграцыі

Пасля вайны выкладаў у вайсковай польскай школе ў Італіі. У 1946 годзе з жаўнерамі-беларусамі арганізаваў у Лондане першую пасля вайны на эміграцыі беларускую арганізацыю — Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытаніі, быў яе першым сакратаром.

Пад яго старшынствам у 1948 годзе былі куплены беларускі дом у Лондане.

Потым пераезджае ў Таронта. Па ініцыятыве В. Жук-Грышкевіча ў 1952 годзе адбылася першая сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая стала традыцыйнай. Увосень гэтага ж года атрымаў у Атаўскім універсітэце навуковую ступень доктара філасофіі. Два гады кіраваў беларускай секцыяй радыё "Вызваленне". Па вяртанні ў Канаду зноў уключаецца ў беларускае грамадскае жыццё. Ён быў ініцыятарам многіх пачынанняў, якія спрыялі захаванню і ўзбагачэнню беларускай культуры, прадстаўляў беларусаў у канадскіх дзяржаўных і грамадскіх установах. Прыкладам, дзякуючы яго энергічнай дзейнасці, беларусы былі выдзелены як нацыя пры перапіску насельніцтва (канадскія чыноўнікі адносілі беларусаў да рускіх ці палякаў), дабіўся, што ў статыстычных крыніцах беларуская мова стала фігураваць асобнай мовай, а не дыялектам рускай. Пяру Вінцэнта Жук-Грышкевіча належыць шмат навуковых прац і артыкулаў пра беларускую культуру і яе дзеячаў. З 1968 года ён быў першым намеснікам, а ў 1970-1982 гг. — старшынёй рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў эміграцыі. А апошній згадкай пра яго стаў актыўны удзел ва ўзвядзенні Беларускага памятнага крыжа ў Святыні пакутнікаў у Мідландзе ў Канадзе ў гадавіну тысячагоддзя хрысціянства на Беларусі.

Памёр В. Жук-Грышкевіч 14 лютага 1989 года ў горадзе Бэры (Канада) і пахаваны на беларускіх могілках у Іст Брансвілі (ЗША).

Выкарыстаны матэрыялы і фатаграфіі кнігі Раісы Жук-Грышкевіч "Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча".

Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.



**Вінцэнт і Раіса Жук-Грышкевічы каля беларускага крыжа. Верасень, 1988.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

# Лідэр сезону

**Прайшлі самыя адказныя старты зімовага сезона, які лёгкаатлеты праводзяць у манежах. Найлепш сярод прадстаўнікоў рэгіёну выступіў бягун на сярэднія дыстанцыі маладзечанец Руслан Садоўскі.**

Заяўку на высокія вынікі ён зрабіў падчас розыгрыша Кубка Беларусі. Стаў трэцім у бегу на 3 кіламетры. Самым важным спаборніцтвам быў чэмпіянат краіны 6-7 лютага ў сталіцы. У першы дзень Руслан заняў 3 месца ў бегу на 1,5 км з часам 3.54,48. Назаўтра была дыстанцыя, на якую рабілася асноўная стаўка – 3 км. Сярод 17 удзельнікаў Садоўскі фінішаваў ізноў трэцім. Вынік рэкордны для ўсіх маладзечанцаў за ўсе часы – 8.17,97.

Нарадзіўся Руслан Садоўскі ў 1980-м годзе. Скончыў СШ№3. Служыў у Маладзечне ў спортроце. З 2000-га года працуе ў службе "Ахова". Выступае на розных спаборніцтвах за міліцэйскую зборную. На работе яму ідуць насустрач, дапамагаюць вылучыць найлепшыя гадзіны для трэніровак. Пры гэтым часу на нейкія іншыя захапленні, акрамя бегу, не застаецца. Займаецца кожны дзень, за выключэннем нядзелі. За адну трэніроўку трэба прабегчы не менш, чым 15 км (звычайна з манежу ў напрамку Вілейкі) плюс спецыяльныя практыкаванні. Пачынаў у 1995-м у **Леаніда Арцем'ева** і дагэтуль у яго трэніруецца. У 2000-м годзе выступаў на чэмпіянаце свету па кросе ў Партугаліі. З 250 удзельнікаў прабіўся ў сотню лепшых у барацьбе з прадстаўнікамі афрыканскіх краін вельмі складана. Заняў там 108 месца на дыстанцыі 4 км. На рэспубліканскіх стартах пастаянна быў у прызёрах у юнацкім узросце. У 1997-м выйграў Алімпійскія дні моладзі.



Бягун на сярэднія дыстанцыі Руслан Садоўскі сёлетняй зімой паказаў найлепшыя вынікі сярод лёгкаатлетаў рэгіёну. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Акрамя 1,5 км і 3 км Руслан выступае на 5 км (лепшы вынік 14.19). Зараз у Беларусі няма яўнага лідэра ў бегу на гэтых дыстанцыях, занадта высокіх вынікаў няма, і таму на буйнейшых міжнародных стартах нашу краіну ніхто не прадстаўляе. Недзе 5-6 чалавек вядуць барацьбу за месцы на унутрырэспубліканскім п'едэстале, і з гэтага года Садоўскі ўвайшоў у іх лік. Вынікі ў яго растуць. Напрыклад, летам меў на 3 км крыху горш за 8.18, а зараз "выбег" з гэтага часу. На 1,5 км летам у Стайках меў каля 3.48. Імкнецца да нарматыву майстара спорту: 3.46 (лета) і 3.47 (зіма) на 1,5 км, 8.00 (лета) і 8.05 (зіма) на 3 км.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КОНКУРС

## У рэгіёне ведалі, як пераможа «Рэал»

**На першым этапе мы атрымалі 20 ліставанняў. Усе 6 правільных адказаў не даў ніхто.**

### Правільныя адказы

Акрабатыка – Г, Баскетбол – Б, Валейбол – Б, Гандбол – Б, Дзюдо – В, Інваспорт – В.

5 правільных адказаў аказалася ў чатырох удзельнікаў. Каб вызначыць лепшага сярод іх, і спатрэбіліся дадатковыя пытанні. У сераду былі зафіксаваныя наступныя вынікі: "Рэал" – "Барусія" (2:1). "Мілан" – "Лакаматыў" (1:0). Напэўна, нашым прэтэндэнтам будзе цікава даведацца аб варыянтах сваіх канкурэнтаў.

| | 1 | 2 |
|---|---|---|
| А. Вярбіцкі | 2:1 | 2:0 |
| Д. Міхайлоўскі | 2:1 | 2:0 |
| П. Сярпейка | 2:1 | 1:0 |
| А. Шпілеўскі | 2:1 | 3:1 |

**Заўвага.** 1 – прагноз на матч Лігі Чэмпіёнаў "Рэал" – "Барусія", 2 – прагноз на матч "Мілан" – "Лакаматыў".

Такім чынам, згодна выпрацаваных крытэрыяў пераможцам першага этапу, і гаспадаром фірменнага шаліка ФК "Маладзечна-2000", становіцца **Павел Сярпейка.**

4 правільныя адказы ў васьмі удзельнікаў. Гэта **Максім Бялоцкі, Аляксандр Кучэрын, Сяргей Ракоўскі, Міраіда і Вадзім Сярпейкі** (усе з Маладзечна), **Мікалай Кіндра** са Смаргоні, **Аляксей Прэдка** з Камарова Мядзельскага раёну, **Віталь Скаскевіч** з Гальшанаў.

3 правільныя адказы ў пяці чалавек, 2 – у аднаго, 0 – у двух. Нагадаем, на кожным этапе свой асобны прыз, таму ўключыцца ў конкурс ёсць сэнс у любы час.

### Пытанні другога этапу

**Конны спорт.** Якія самыя высокія перашкоды ў канкуры? А – 125 см. Б – 140 см. В – 155 см. Г – 170 см.

**Лёгкая атлетыка.** Які від даўно існуе ў жаночай праграме?

А – кіданне молату. Б – скачок з шастом. В – трайны скачок. Г – штурханне ядра.

**Мотабол.** Якім метадам нельга абараняцца?

А – блакіраваць атаку, ставячы свой матацыкл на лініі варатарскай. Б – блакіраваць атаку, едучы насустрач нападаючаму. В – ехаць побач з нападаючым, спрабуючы выбіць мяч нагою. Г – імкнуцца перахапіць пас праз цэнтральную лінію поля, які абавязкова павінны зрабіць нападаючыя.

**Нарды.** Колькі выкарыстоўваецца гульнявых касцей?

А – адна. Б – дзве. В – чатыры. Г – шэсць.

**Плаванне.** Прадстаўнікам якога стылю найбольш нязручнасцяў дастаўляе правіла, што патрабуе вынырнуць на паверхню праз 15 метраў пасля старту і кожнага павароту?

А – батэрфляй. Б – брас. В – "вольны". Г – "на спіне".

**Рынга.** Як трэба гуляць?

А – як у валейбол, маючы права схапіць мяч рукамі. Б – як у тэніс, б'ючы па футбольнаму мячу нагою. В – як у валейбол, выкарыстоўваючы замест мяча гумавае кальцо, якое трэба лавіць рукою. Г – як у тэніс, выкарыстоўваючы замест мяча гумавае кальцо, якое трэба лавіць на палку.

**Дадатковыя пытанні.** З якім лікам завяршацца 12 сакавіка матчы перадапошняга тура футбольнай Лігі Чэмпіёнаў "Рэал" – "Мілан" і "Барусія" – "Лакаматыў"?

Адказы на пытанні другога этапу прымаюцца да **пятніцы, 28 лютага,** уключна. Іх можна дасылаць на адрас рэдакцыі (з паметкай "Спартыўны конкурс"), можна прыносіць у рэдакцыю асабіста, можна дасылаць электроннай поштай на адрас konkurs@tut.by.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

## Кантрольныя матчы

**12 лютага. Манеж. Маладзечна-2000 – Беларусь (да 20 гадоў) 0:3.**
**15 лютага. Гарадскі стадыён. Маладзечна-2000 (дубль) – Крышталь (Смаленск, дубль) 1:2.**
Галы: Галенка (37); (7), (87).
**16 лютага. Манеж. Маладзечна-2000 – Тарпеда (Жодзіна) 0:0**
**Маладзечна-2000 (дубль) – Тарпеда (Жодзіна, дубль) 2:2 (0:1)**
Галы: Пышнік (56), Антановіч (73); (14), (64)

Яшчэ шмат гульцоў прыехалі на прагляд. Аўтар гола **Ігар Пышнік** – паўабаронца 1982 г.н. з "Вераса" (Д3). З камандай трэніруецца варатар **Ігар Астапчык,** які апошнім часам гуляў за расійскі "Варонеж" (Д2), а на Беларусі запомніўся чэмпіёнствам-1998 у складзе "Дняпра-Трансмаша".

На турніры ў Навапалацку нашы занялі другое месца як у групавым турніры, так і па выніку фінальнага матча з мазыранамі. Лепшым абаронцам турніру быў прызнаны **Віктар Маляўка.**

**13 лютага. Ліда. Смаргонь – Ліда 1:1 (0:1)**
Галы: Казлоў (47); (15)

Смаргонцы тыдзень правялі ў Лідзе. Спачатку згулялі з гаспадарамі ў вялікі футбол, а потым прынялі ўдзел у турніры па міні-футболу. Удзельнічалі там восем каманд, з іх дзве нашыя. Адна ў сваёй групе перамагла ўсіх сапернікаў, іншая – у паралельнай групе заняла другое месца. Прыйшлося сустрэцца між сабою ў паўфінале. Больш слабыя па выніках папярэдняга этапу ўзялі верх 7:4, затым у фінале выйгралі у гаспадароў 3:1.

У нашых землякоў найбольш забіваў **Аляксандр Валовік.** Ён вядомы па выступленнях у вышэйшай лізе, а летась гуляў за сталічны МТЗ-РІПА.

Напрыканцы лютага смаргонцы паедуць на турнір ва ўкраінскі Івана-Франкоўск, а ў сярэдзіне сакавіка будзе двухтыднёвы збор у Крыму.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПЛАВАННЕ

## Новая маладзечанская «зорачка»

**Чэмпіянат краіны на "доўгай" вадзе прайшоў у Навапалацку.**

З поспехам выступілі выхаванцы маладзечанскай КДЮСШ прафсаюзаў. **Анастасія Лях** (трэнер **Людміла Крывецкая**) заняла 1 месца на 200 м брасам з уласным рэкордам. На 100 м брасам яна была 2-й таксама з уласным рэкордам. На 50 м брасам падзялiла 2-3 радкі. У складзе камбінаванай эстафеты Насця аформіла яшчэ адно 1-е месца. **Віталь Барташэвіч** (трэнер **Уладзіслаў Антонаў**) выйграў 100 м брасам. На 50 м брасам ён быў 2-м. Яшчэ два 2-х месцы заняў у эстафетах: 4*100 камбінаваным стылем і 4*100 вольным стылем. З'явілася і новая зорачка. **Яўгенія Ламака** нарадзілася ў 1988-м годзе. Трэніравал яе **Арнольд Караў,** а зараз яна займаецца ў мінскім абласным ВАРы. Заняла 2-е месца на 800 м вольным стылем. А яшчэ стала 3-й у складзе эстафеты 4*200 вольным стылем.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЗДАРОЎЕ

# Дзе лечаць алергію?

**Усё больш людзей пакутуе на алергію. Дактароў, якія яе лечаць, недастаткова ў раённых паліклініках. Доктар Смаргонскага філіяла тэрапеўтычнага аддзялення раённай паліклінікі Галіна Мартынава лічыць, што колькасць хворых на алергію не ўзрасла. Проста палепшылася дыягностыка.**

**СМАРГОНЬ.** Дарослых лечаць у філіяле тэрапеўтычнага аддзялення раённай паліклінікі. Мікраёрн Усходні, вул. Юбілейная, 14. Тэл. 5-14-75. Прыём штодня.

Дзяцей накіроўваюць у Мінск, вул. Урублеўскага, 46, дзіцячая паліклініка №5. Тэл. 233-46-35, 233-99-14, 239-05-20.

**ВІЛЕЙКА.** Для дарослых: вул. Маркава, 27, раённая паліклініка. Тэл. 5-40-82. Прыём штодня. Для дзяцей: Бараўляны, дзіцячая абласная паліклініка. Тэл. 202-17-69.

**АСТРАВЕЦ.** Для дарослых: Гродна, бульвар Ленінскага камсамола, 52, абласная клінічная бальніца. Тэл. 33-03-45. Для дзяцей: Мінск, вул. Кісялёва, 2, медыцынскі цэнтр "Лада". Тэл. 284-71-89.

**МАЛАДЗЕЧНА.** У дзіцячай і дарослай паліклініцы ёсць алерголагі. Яны прымаюць згодна з раскладам. Тэл. 063, 7-17-11, 3-00-85 – дзіцячая паліклініка; 057, 3-00-92 – гарадская паліклініка.

**МЯДЗЕЛ.** Дарослыя і дзеці могуць звярнуцца да педыятра і тэрапеўта, якія прайшлі неабходную падрыхтоўку і могуць лячыць алергію. Яны прымаюць штодня згодна з раскладам. Калі неабходна дапамога на больш высокім узроўні, дзяцей накіроўваюць у Мінск, вул.П.Броўкі, дзіцячая абласная клінічная бальніца. Тэл. 232-31-69. Дарослых накіроўваюць у пас. Лясное Мінскай вобл., абласная клінічная бальніца. Тэл. 202-21-26.

**АШМЯНЫ.** Намеснік галоўнага доктара па медыцынскай частцы тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання Аляксандр Ануфрыеў гаворыць, што алергія – гэта не хвароба, а стан, асаблівасць арганізма. І з алергічнымі праявамі ашмянцаў спраўляюцца мясцовыя педыятры і тэрапеўты. Калі ўсё ж такі не, накіроўваюць у Гродна, бульвар Ленінскага камсамола, 52, абласная клінічная бальніца ці ў абласны скурна-венералагічны дыспансер па вул. Дамброўская, 39-а.

**ВАЛОЖЫН.** Дарослых накіроўваюць у пас.Лясное Мінскай вобл., абласная клінічная бальніца. Тэл. 202-21-26. Дзяцей – у Бараўляны ў абласную дзіцячую паліклініку. Тэл. 202-17-69.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

## ВІНШАВАНКІ

Дарагую мамачку
**Аляксандру Іосіфаўну Корсак**
віншуем з юбілеем!
Живет на свете ради близких,
Порою забывая о себе.
Пусть в этот день поклонятся все низко
За душу добрую тебе.
До старости глубокой и счастливой
Ты доживи и правнуков дождись,
И оставайся радостной, красивой
Какою трудной не была бы жизнь.

Віншуем з 40-годдзем **Наталлю Іванову** з Вілейкі! Жадаем сямейнага дабрабыту, аптымізму, здароўя, поспехаў у жыцці. *Сяргей і Таня.*

Віншуем **Наташу і Міколу Малінцоў** з чарговай гадавінай вяселля! Жадаем здароўя, поспехаў і сыночка ці дачушку! *Іра, Алег, Саша.*

Віншую са святам дарагіх мужчын: **Уладзіміра, Сяргея, Паўлушу, Леаніда, Аляксандра, Яўгена, Рыгора, Васілія**! Жадаю здароўя. *Зінаіда.*

**Пятру Пятрагу**. Дарагі пробашч, віншуем Вас з днём нараджэння! Здароўя Вам, няхай вас аберагае Бог. *Вашыя вернікі.*

Дарагую сястру **Ганну Ідзіятаву** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, узаемнага кахання, шчасця, радасці, удачы. *Сям'я Шумскіх.*

Дарагую ўнучку **Ганну Ідзіятаву** віншуем з днём нараджэння! Здароўя, кахання, удачы, добрага настрою. *Дзядуля і бабуля Уладыкі.*

Дарагая дачушка **Ганначка Ідзіятава**, віншую з днём нараджэння! Жадаю здароўя, шчасця, кахання і усяго найлепшага. *Мама.*

Шаноўная **Зінаіда Ільінічна Станкевіч**, віншую з днём нараджэння! Жадаю Вам усяго таго, што Гасподзь дае. *Унук Уладзімір.*

Віншуем **Людмілу Станкевіч** з 20-годдзем! Жадаем здароўя, кахання, удачы, птушкі шчасця. *Сям'я Мількотаў з в. Ілья.*

Самую непаўторную, абаяльную **Наталлю Паўлаўну Рыкаву** — з юбілеем! Мільён пунсовых ружаў табе, дарагая! *Калектыў дз/с №27.*

**Васілію Бондару**! З днём нараджэння, сынок! Шчасця, здароўя, поспехаў табе усюды і і ва ўсім. *Тата.*

**Сяргей Скрыль**, віншуем з днём нараджэння! Жадаем кахання, шчасця, здароўя, дабрабыту. *Калегі.*

**Юрыю Бондару**. Дарагі, любы муж і тата! Віншуем цябе з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя і няхай заўсёды ўдача спадарожнічае табе ў жыцці. *Жонка Ала і сын Максім.*

Шчыра віншуем
з днём нараджэння
**Вольгу Кавецкую**!
Жадаем моцнага здароўя,
шчасця, кахання.
Неумолимые года
Остановить не в нашей власти...
Так пусть же будет так всегда:
Чем больше лет – тем больше счастья!
*З любоўю муж, сыночак Максім.*

Віншуем любага тату **Уладзіміра Ігнатавіча Кузьміча** з Днём абаронцы Айчыны! Жадаем шчасця, дабрабыту і, галоўнае, здароўя. *Родныя.*

Віншуем **Соф'ю Казіміраўну Багачэнку** з 50-годдзем! Жадаем здароўя, вечнай маладосці. *Калектыў дз/с №5, Вілейка.*

**А.П. Власаўцу** з юбілеем! Желаем быть таким же энергичным, здоровым, веселым, даже шальным, счастливым, как сегодня симпатичным и бесконечно молодым. *Суседзі.*

**Аляксандра Мікалаевіча Казлоўскага** з 45-годдзем і Днём абаронцы Айчыны! Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту, удачнай рыбалкі. *Жонка, сын.*

Віншую **Аляксандра Паўловіча** з Днём абаронцы Айчыны! Шчаслівых дарог, кахання, удачы. Знайдзі мяне. *Ірына.*

Віншуем дарагіх **Макса Казакевіча і Макса Афанасьева** з Днём абаронцы Айчыны! Кахання, абажання, удачы. *Ірына, Зоя, Ірына.*

Сардэчна віншуем нашых дарагіх мужчын **Генадзія, Андрэя і Стаса, Уладзіміра** з Днём абаронцы Айчыны! *Юля, Каця, Наташа.*

Віншуем **Валянціну Іванаўну Крывіцкую** з 45-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, удачы, поспехаў у рабоце. *Муж і дзеці.*

Віншую **Глеба Іванавіча Кічыгіна** з днём нараджэння! Жадаю поспехаў ва ўсіх справах, здароўя, доўгага кахання. *Дзяўчына Наталля.*

Віншуем з днём нараджэння тату **Аляксандра Іванавіча Янушчыка** з Вілейкі! Здароўя, шчасця, даўгалецця, сямейнага дабрабыту. *Дзеці, унукі.*

**Дзмітрыю Карніловічу**. Дарагі муж і тата! Віншуем цябе з днём абаронцы Айчыны! Жадаем здароўя, шчасця. *Жонка і сыны.*

Віншуем **Алу Уладзіміраўну Тумаш** з днём нараджэння! Здароўя, быць заўсёды любімай, прыгожай, непаўторнай, пяшчотнай і дарагой. *Калегі.*

## Кінатэатр «Радзіма»

### 24 лютага – 2 сакавіка

**"Асінае гняздо"**, Францыя, баявік – 19.00 і 21.00 (акрамя 27 лютага). Смяротная гульня ў кошкі–мышкі.

**"Скрыжаванні"**, маладзёжная камедыя з удзелам Брытні Спірс. Шмат вясёлых прыгод і няпростых сітуацый – 15.00, 17.00; 27 лютага 15.00, 17.00 (ільготны).

### Фільмы для дзяцей

22 лютага 13.00 **"Каты–арыстакраты"** – паўнаметражны мультфільм.
23 лютага 13.00 **"Сняжок"** (прыгоды).

**Дыскатэка "Медыум" запрашае**. Маладзёжныя вечарынкі – пятніца, субота у 21.00. **"14 ± 2"**. Кожную суботу у 19.00. Кожную нядзелю ў 12.00 для малодшых школьнікаў. Працуе бар. Прымаем калектыўныя заяўкі на правядзенне вечарынак.

**Танцавальна–канцэртнае шоу Сяргея Мінскага** ў 19.00. Кошт білета 4000.
Тэл. для даведак **7–15–92, 7–06–30**.

## ІМЯНІНЫ

**21 лютага**
**Праваслаўныя**: Захара, Савы, Фёдара.
**Каталіцкія**: Элеаноры, Фелікса.
**22 лютага**
**Праваслаўныя**: Генадзя, Інакенція, Маркела, Нікіфара, Панкрата.
**Каталіцкія**: Малгажаты, Марты.
**23 лютага**
**Праваслаўныя**: Валянціны, Ганны, Паўлы, Парфірыя, Прохара.
**Каталіцкія**: Дамяна, Палікарпа, Рамана.
**24 лютага**
**Праваслаўныя**: Гаўрылы, Дзмітрыя, Уласа.
**Каталіцкія**: Богуша, Мацея.
**25 лютага**
**Праваслаўныя**: Марыі, Аляксея, Антона, Мялеція, Яўгена.
**Каталіцкія**: Віктара, Цэзара.
**26 лютага**
**Праваслаўныя**: Святланы, Сцяпана, Сямёна.
**Каталіцкія**: Аляксандра, Міраслава.
**27 лютага**
**Праваслаўныя**: Абрама, Аўксенція, Ісака, Кірылы, Міхаіла, Фёдара.
**Каталіцкія**: Анастасіі, Леанарда.

# Каляндар настрою

**МАЛАДЗЕЧНА. Зімой за сваіх дзяцей бацькі найбольш хвалююцца. Летам у чалавека менш праблем. Увогуле, кожная пара года накладвае свой адбітак на настрой чалавека. Так сцвярджаюць псіхолагі цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей.**

Пра сезонны настрой чалавека расказвае псіхолаг Анжэла Дзяркач.


**Псіхолаг цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей Анжэла Дзяркач.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Зіма

Менавіта зімой бацькі пачынаюць непакоіцца за дзяцей, якія ў верасні пойдуць у першы клас. Мамы і таты не ўпэўнены, ці гатовы іх дзеці ісці ў школу. Як правіла, большасці 6-гадовых дзяцей рана становіцца школьнікамі. Але псіхолагі лічаць, што лепш аддаваць дзяцей у школу з 7 гадоў.

Бацькі і самі могуць вызначыць, ці пара дзіцяці ў школу. Калі сын або дачка пытаюцца, што за літара напісана – прыйшоў час вучыць чытаць. Альбо калі дзіця ўдала абводзіць малюнак па пункцірных лініях, лёгка навучаецца пісьму, трэба купляць партфель. Гэтыя моманты ўпускаць нельга, і таму варта аддаваць дзіця ў школу.

Яшчэ зімой узнікаюць праблемы паміж падлеткамі і іх бацькамі. Падлеткавы ўзрост цяпер пачынаецца раней: з 11 гадоў у дзяўчынак і з 12 гадоў – у хлопчыкаў. У падлеткаў узнікаюць праблемы з аднагодкамі. Яны не ўпэўненыя ў сабе, не ўспрымаюць сябе такімі, якія ёсць.

У іншых выпадках у цэнтр прыходзяць бацькі. Прыкладна 50% мамаў і татаў не гавораць сваім дзецям-падлеткам, што яны пайшлі за дапамогай да псіхолага. У бацькоў і падлеткаў заўсёды пытаюцца, якога выніку яны хочуць у рабоце з псіхолагам. І абавязкова дасягаюць яго. Праз бацькоў псіхолаг запрашае да сябе падлетка. Калі ён прыходзіць, працуюць па яго запыту, яго правілах. Бывае, што падлетак адмаўляецца і не прыходзіць. Тады працуюць толькі з бацькамі, калі яны хочуць.

Па сутнасці, гаворыць А.Дзяркач, бацькі заходзяць у тупік і вырашаюць ўласную праблему, а не свайго дзіцяці. Ёсць адзіная праблема ўсіх канфліктаў паміж бацькамі і дзецьмі – бацькі не заўважаюць, што іх дзіця становіцца дарослым. Падлетак заяўляе аб сабе, але яшчэ не ўмее жыць у дарослым свеце. Сваімі паводзінамі ён гаворыць, што яму не хапае бацькоўскай увагі.

### Вясна

Праўду кажуць, што вясна – пара кахання. Але ў кожнага яно сваё. Часцей у цэнтр звяртаюцца 18-25-гадовыя. Мужы і жонкі не разумеюць адзін аднаго. Сварацца. Менавіта на вясну прыходзіцца каханне без адказу. А таксама спробы самагубства з-за яго.

Варта памятаць, раіць псіхолаг Анжэла, — самае каштоўнае, што ёсць у чалавека – гэта ён сам.

Нягледзячы на тое, што вясной абуджаецца прырода, многіх з нас гэта не радуе. І кажам сабе: мне сумна і дрэнна. Такое адбываецца з-за таго, што наш арганізм аслаблены пасля зімы. Таму трэба навучыцца падымаць сабе настрой, рабіць сабе падарункі. І для гэтага не абавязкова мець грошы. Напрыклад, кожны можа падарыць сабе і іншаму прагулку на свежым паветры ці схадзіць туды, дзе не быў. Можна сустрэцца з чалавекам, якога не бачыў доўгі час, але вельмі хацелася. Выратаваць настрой можа і хобі, захапленне. Яно ёсць амаль у кожнага. Вялікая справа – працатэрапія. Але не да знемажэння. Праца павінна быць у радасць.

Менавіта вясной пачынаецца дачны сезон. Бацькі просяць ці прымушаюць сваіх дзяцей дапамагчы на дачы. Дзецям, канешне ж, хочацца гуляць. У такім выпадку, гаворыць псіхолаг, лепшае выйсце – супрацоўніцтва і дамоўленасць. Можна перанесці паездку ўсёй сям'ёй на іншы дзень.

### Лета

Як правіла, у гэтую пару года праблемы ў людзей вырашаюцца самі сабой. Па меркаванні тых, хто звяртаецца ў цэнтр. Альбо ёсць сілы адкласці іх на потым, а, дакладней, да восені. Летам чалавек трапляе быццам бы ў іншы свет. Мужчыны і жанчыны жывуць марамі, надзеямі, чаканнямі і жаданнямі. Напрыклад, аб доўгачаканым адпачынку.

Іншая справа – вольны час дзяцей, якія засталіся ў горадзе. Дзеці крадуць грошы са сваіх кватэр, з іх дапамогай шукаюць сабе славу. Напрыклад, хочуць паказаць сябе ў незнаёмай кампаніі сярод прыезджых. Дзіця не разумее, што з ім сябруюць дзеля грошай.

У бацькоў жа, а часцей у маці, узнікае пачуццё віны. Маці не ведае, што яна не так зрабіла. А тата мяркуе: усё ў норме. Дзіця знаходзіцца паміж двух агнёў. І сам выбірае, да каго з бацькоў, з якім пытаннем можна звярнуцца. Тым часам характар у сына або дачкі становіцца двудушным.

Лепш усё ж такі дзіця адвезці ў лагер, санаторый, да бабулі. Размовы з незнаёмымі, іншымі людзьмі – гэта ўжо новы жыццёвы вопыт. Нездарма пасля летніх канікулаў дзеці рэзка становяцца пасталеўшымі.

Часта маці не хоча аддаваць дзіця ў лагер і нават бабулі. А дакладней, баіцца адарваць яго ад сябе. Яна і не здагадваецца, што псіхалагічна дзіця адрываецца ад маці прыкладна ў 3 гады. Мабыць, кожная чула: я сам, альбо я сама. Дрэнна празмерна апякаць дзіця. Гэта залежнасць ад маці на ўсё жыццё. Ніводнага рашэння дзіця не зможа прыняць самастойна, нават калі будзе дарослым.

### Восень

Мужчын і жанчын пакідае бадзёрасць разам з летнім сонцам. Абвастраюцца зносіны ў сям'і. Асабліва з цесцям/ цешчай, свёкрам/свякроўю. Нясоладка і на рабоце. "Вылазяць" праблемы, якія засунулі ў далёкі куток летам. Чалавеку патрэбны новы штуршок да жыцця, новыя сілы. А яны знаходзяцца ў нас саміх.

Восенню часцей прыходзяць у цэнтр жонкі, у якіх п'юць мужы. Маўляў, я так жыць больш не магу. На самой справе жонкі не ведаюць, чаго хочуць: пайсці ад мужа, дапамагчы мужу. Яны не разумеюць, што алкаголік ніколі не кіне піць па чыёйсьці просьбе. Патрэбна яго асабістае жаданне. Большасць жонак церпяць, прымаюць жыццё такім, якое яно ёсць. І не дапамагаюць мужу вылечыцца, і не сыходзяць ад яго.

Яшчэ адна праблема восені – адзінота. Калі 14-45-гадовыя людзі прыходзяць да псіхолага, то 55-60-гадовыя не рашаюцца на гэта. Яны звоняць на тэлефон даверу.

Псіхолаг Анжэла Дзяркач дала агульную параду на восень. Пабольш вітамінаў зносін, любові да сябе і іншых. На жаль, найбольш жорстка і балюча мы робім сваім родным і блізкім. А гэта рабіць не варта.

Ірына РАБУШКА.

## Купон 8

рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)



## ЗНАЁМСТВЫ

27/178/78. Пазнаёмлюся з дзяўчынай для сур'ёзных адносін. 222310, Маладзечна-6, п/д №3994436.

Сімпатычная дзяўчына 27/170/55 для сур'ёзных адносін пазнаёміцца з самастойным, сур'ёзным маладым чалавекам без шк/зв., 27-33 год. Вілейка-4, п/п ВН 0056013.

50/162/72. Для сяброўства пазнаемлюся з прыемным мужчынам. Маладзечна-4, а/с 9.

Пазнаёмлюся з прыстойным мужчынам для сяброўскіх адносін. Пра сябе: удава, 52/155/60. Маладзечна-7, п/п МС 0367622.

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Рагу з агародніны з курыным філе



**250 г курынага філе, 50 г сметанковага масла альбо маргарыну, 1 цыбуліна, 2 долькі часнаку, 400 г living рознай агародніны (напрыклад, браколі, морква, балгарскі перац, кабачкі), 150 мл таматнага соуса, зяляніна для ўпрыгожвання, перац, соль.**

Нарэжце філе невялікімі кубікамі. У жароўні разагрэйце масла альбо маргарын, пакладзіце ў яе мяса і смажце на працягу 5 хвілін, пры гэтым пастаянна памешвайце.

У мяса пакладзіце нарэзаную цыбулю і здробнены часнок. Гатуйце яшчэ 2 хвіліны.

Нарэжце агародніну на аднолькавыя кавалачкі. Пакладзіце ў мяса і гатуйце некалькі хвілін, час ад часу памешвайце. Дадайце таматны соус і тушыце 10-15 хвілін да гатоўнасці. Агародніна не павінна быць вельмі мяккай.

Запраўце агароднінне рагу з курыным філе соллю і перцам. Упрыгожце страву свежай зелянінай. Падавайце з рысам ці бульбай-фры.

